13 чэрвеня 2014 | № 23 (392)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**Надышоў час аформіць падпіску на II паўгоддзе**

ISSN 2218-2144

**3** НЯЎЖО ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ?

Ва ўладных колах Беларусі адбылася сапраўдная сенсацыя



**12** РАСІЯ БЕЗ ФУТБОЛА АБО БЕЗ ПУЦІНА

Як мяркуюць лібералы, адзін з пратэстаў, выкліканых карупцыйнымі аферамі вакол ЧС, можа запусціць ланцужок падзей, у выніку якіх Расія будзе прымаць ЧС–2018 без Пуціна

**4–5** ПАКУЛЬ КРОЎ НЕ АЗМРОЧЫЛА РОЗУМ

Калі я вярнуўся дадому з Украіны пасля трохмесячнай камандзіроўкі, у мяне спачатку нібыта ўсё выветрылася з галавы



**14–15** ХАТЫНЬ: ЖОРСТКАЕ РЭХА ГІСТОРЫІ

Ці былі ў Хатыні «бандэраўцы», або хто насамрэч спаліў беларускую вёску?



# Як падставіць Беларусь

## З-за «аднавектарнасці» нашай палітыкі, скіраванай на Расію, для Беларусі наступяць цяжкія часы



Сяргей ПУЛЬША

Ніякія санкцыі не прымусяць Расію перагледзець сваё рашэнне па Крыме, заявіў намеснік кіраўніка МЗС РФ Уладзімір Цітоў перад нефармальнай сустрэчай кіраўнікоў МЗС Расіі, ФРГ і Польшчы па ўкраінскім пытанні ў Санкт-Пецярбургу. Ён таксама абвінаваціў NATO ў парушэнні асноватворнага акта аб узаемных адносінах паміж Расіяй і NATO праз размяшчэнне дадатковых баявых сіл блізу расійскіх межаў.

Наконт асноватворных міжнародных дакументаў — дык тут можна сказаць: «Чыя б карова мычала»... Пасля таго, як Расія, наплюваўшы на ўсе міжнародныя дамоўленасці і ўласную гарантыю бяспекі і цэласнасці Украіны, анексавала Крым, ёй пра міжнароднае права можна забыцца. А вось што тычыцца «антырасійскіх санкцый», то тут справа сур'ёзная.

На падтрымку сваёй эканомікі Расія з пачатку года (чытай — з моманту анексіі Крыма) ужо выдаткавала каля 100 мільярдаў долараў. Па ацэнцы намесніцы дзяржсакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі Вікторыі Нуланд, толькі з пачатку сакавіка каля 30 мільярдаў долараў было выдаткавана на падтрымку курсу расійскага рубля, а адток капіталаў з пачатку года склаў каля $60 мільярдаў — амаль столькі ж, колькі за ўвесь 2013 год. Рэйтынг расійскіх аблігацый ледзь-ледзь перавышае «ненадзейны».

Гэтая сітуацыя будзе пагаршацца. Міністэрства эканамічнага развіцця Расіі разлічвае, што за год наш «старэйшы брат» страціць каля $100 мільярдаў, у крытычным выпадку — $150 мільярдаў. Былы міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын называе магчымую суму стратаў у $200 мільярдаў. Гэта пры тым, што золатавалютныя рэзервы Расіі складаюць $500 мільярдаў. Такім чынам, з-за «ўкраінскай авантуры» Крэмль за год можа пазбавіцца значнай часткі сваіх ЗВР.

Між тым, для Расіі страшны не сам па сабе адток капіталу, а тое, сімптомам чаго ён з'яўляецца. У Расіі зніжаюцца інвестыцыі, без якіх немагчыма дамагчыся ўстойлівага росту ВУП. Уцёкі капіталу сведчаць пра немагчымасць развіцця, узмоцненае адставанне ад Захаду ў прадукцыйнасці працы і, як следства, адсутнасць росту даходаў насельніцтва. Расію чакае як мінімум рэцэсія.

Наша праблема тут у тым, што з-за санкцый Расія будзе ставіцца больш «прыжымістай». Гэта мы ўжо адчуваем на сабе. Напрыклад, крэдыт у $2 мільярды, які нам абяцала Расія, і пра які Аляксандр Лукашэнка казаў, што «ён павінен прыйсці ў маі», Беларусь пакуль што не атрымала — прынамсі, пра гэта не было чуваць.

**Экспартная выручка Беларусі з Расіі скарацілася на $386,7 мільёна**




Пра гэта ж кажа і эканаміст Барыс Жаліба, прычым, па ягоных словах, сітуацыя ў дачыненні да Расіі яшчэ горшая. «Па ацэнцы Еўрапейскага цэнтрабанку, адток капіталу з Расіі склаў $160 мільярдаў. Золатавалютныя рэзервы Расіі скараціліся з $500 мільярдаў да $470 мільярдаў. Расія ў фінансавым плане імкліва «худзее», і відавочна, што аб'ём расійскай дапамогі беларускай эканоміцы будзе скарачацца. А без гэтай дапамогі беларуская эканоміка існаваць не ў стане», — лічыць Жаліба.

Эксперт адзначае і складанасці з выдачай Беларусі абяцанага крэдыту, і тое, што ўжо зараз пакупніцкая здольнасць Расіі, што тычыцца беларускіх тавараў, зніжаецца. «Здавалася б, што такое 2 мільярды долараў для Расіі? Але зараз, з адтокам капіталу, з тымі ўліваннямі, якія патрэбныя Крыму на падтрымку жыццядзейнасці і сацыяльнай сферы, Пуцін лічыць кожную капейчыну, кожны мільярд. Зніжаецца і экспартная выручка Беларусі ад тавараў, якія мы прадаем у Расію, і гэта ўжо заўважна», — адзначыў Жаліба.

Сапраўды, наш экспарт у Расію скараціўся ў першым квартале на 7%. Так, у студзені-красавіку 2014 года экспарт трактароў і седлавых цягачоў знізіўся на $49,1 мільёна долараў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Падзенне экспартных цэн на беларускія шыны прывяло да зніжэння іх экспарту на $78,9 мільёна. Экспарт беларускай свініны на расійскі рынак за той жа перыяд упаў амаль у 4 разы. У цэлым экспартная выручка Беларусі з Расіі скарацілася на $386,7 мільёна.

Далей будзе горш, папярэджвае Жаліба. «Паколькі Расія не пагаджаецца змяніць пазіцыю па Украіне, вельмі верагодна, што Захад усё ж увядзе «трэцюю хвалю санкцыяў», якія тычацца ўжо сектараў расійскай эканомікі — найперш нафтавага і газавага. Пасля гэтага сённяшнія санкцыі Расіі пададуцца кветачкамі. У такім выпадку будучыня поўнасцю залежнай ад Расіі эканомікі Беларусі — справа цёмная», — кажа Жаліба.

Можна было б пераарыентавацца на іншыя рынкі, але гэта складана зрабіць, бо мы ўжо не толькі ў Мытным саюзе, але і ў Еўразійскім эканамічным: заходні вектар для нас закрыты, лічыць Жаліба. Застаецца толькі змяншаць сабекошт прадукцыі, развіваць яе канкурэнтаздольнасць і скарачаць дзяржаўныя выдаткі. То бок, жыць па сродках. «Але, па-першае, гэты рэзерв абмежаваны, а па-другое, як гэта зрабіць? Усе сучасныя тэхналогіі і інвестыцыі зараз на Захадзе. Дарэчы, менавіта гэта — адток не толькі грошай, але і інвестыцый, балюча адчула Расія», — адзначыў Жаліба.

Але на Захад мы прынцыпова не пойдзем. «Чаго мне крыўдзіцца на Захад? Я ж разумею, чаго яны хочуць ад мяне і чаго яны хочуць ад Беларусі. Я ніколі на гэта не пайду і не дазволю ім тут гаспадарыць», — заявіў Лукашэнка 9 чэрвеня ў інтэрв'ю сербскай прэсе.

Тым не менш, можа так адбыцца (і адносна хутка), што ў Беларусі будзе толькі два шляхі: альбо збанкрутаваць разам з Расіяй, альбо ўсё ж пачаць развіваць адносіны з Захадам. Чым раней мы скончым спрэчкі з Захадам, тым менш балючым будзе амаль непазбежны эканамічны разварот. Бо, пасля банкрутства разам з Расіяй, разварочвацца ўсё роўна прыйдзецца.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГРОДНА. Суд над пенсіянеркай перанесены

**10 чэрвеня ў Гродна павінен быў пачацца адміністрацыйны працэс у дачыненні да 83-гадовай актывісткі польскага грамадскага руху Веранікі Себасцяновіч.**

Ля будынка суда Кастрычніцкага раёна сабралася каля двух дзясяткаў чалавек — пераважна гродзенскія незалежныя журналісты, грамадскія актывісты, таксама прыехаў генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродна Анджэй Хадкевіч. Аднак працэс так і не пачаўся.

Адвакатка Юлія Юргелевіч паведаміла прысутным, што працэс пераносіцца на 10-ю гадзіну 17 чэрвеня. Прычына ў тым, што суддзя Таццяна Гергель толькі выйшла з адпачынку і не паспела дэталёва азнаёміцца з матэрыяламі справы.

Нагадаем, што пенсіянерку і камбатантку Вераніку Себасцяновіч вінавацяць нібыта за кантрабанду гуманітарнай дапамогі для сябраў ветэранскай арганізацыі — Звязу жаўнераў Арміі Краёвай у Беларусі. Справу ў дачыненні да Себасцяновіч у суд накіравала гродзенская мытня, якая 2 красавіка бягучага года канфіскавала больш чым 70 скрынак з гуманітарнай дапамогай для ветэранаў АК ад польскай асацыяцыі «Одра—Нёман». Вераніцы Себасцяновіч пагражае штраф да чатырох з паловай мільёнаў беларускіх рублёў.

### БРЭСТ. Чарговае папярэджанне журналісту

**Незалежнага журналіста Максіма Хлябца папярэдзілі за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.**

У Брэсцкай абласной пракуратуры яму паведамілі, што падставай для папярэджання сталі два артыкулы, якія з'явіліся на сайце беларускага радыё «Рацыя».

«Пракурор Бахарава ўручыла мне афіцыйнае папярэджанне за два артыкулы, размешчаныя на Беларускім Радыё Рацыя. Гэта артыкулы: «У Горадзе над Бугам будуць гукаць вясну» і «У Берасці адзначылі сусветны Дзень паэзіі», якія з'явіліся яшчэ ў сакавіку мінулага года. Я падпісаўся пад папярэджаннем за супрацу на незалежныя СМІ без акрэдытацыі», — распавёў Максім.

Гэта не першая праява цікавасці да Максіма Хлябца з боку сілавых структур. У сакавіку 2014 года яго выклікалі ў міліцыю і спрабавалі схіліць да супрацоўніцтва, кажучы, што «ўсё ведаюць» пра яго журналісцкую дзейнасць.

«Думаю, цяперашняе папярэджанне — працяг той гісторыі. Тады я адмовіўся супрацоўнічаць і распавёў пра гэта ў СМІ. Можа, яны вырашылі напужаць мяне яшчэ чым-небудзь — з разлікам на тое, што я спалохаюся і пачну з імі супрацоўнічаць ці спыню сваю дзейнасць», — выказаў меркаванне Максім.

Максім Хлябец пасля кансультацыяў з праваабаронцамі вырашыць, ці будзе абскарджваць гэтае папярэджанне, ці не.

### БАБРУЙСК: Маёр практыкуе «размовы без затаколаў»

**Журналістка з Бабруйска Марына Малчанава расказала, як прайшла яе сустрэча з маёрам міліцыі Сяргеем Рудзько 9 чэрвеня.**

«Дагэтуль Рудзько некалькі разоў запрашаў мяне на сустрэчу па тэлефоне «проста паразмаўляць», але я адмаўлялася ісці без позвы. І вось я атрымала позву, дзе было пазначана, што мне трэба з'явіцца ў УУС «для праведзення размовы». Размова прайшла без пратаколаў і нейкіх запісаў, яе сутнасць была для мяне вельмі цмянай. Маёр паказаў фотаздымкі з нейкай акцыі, якую я бачыла ўпершыню, прасіў назваць імёны людзей, якія ў ёй удзельнічалі, — іх я таксама не ведаю», — распавяла Марына.

Журналістка кажа, што Сяргей Рудзько не хацеў верыць у тое, што яна не з'яўляецца аўтарам вышэйзгаданых фотаздымкаў. А пасля пачаў выпытваць, дзе яна працуе, якім імем падпісвае свае матэрыялы і гэтак далей.

Праз гадзіну Марына сказала, што калі гэта проста «размова», якая не прывязана ні да якіх артыкулаў і заведзеных спраў, яна можа спакойна сысці. На што міліцыянт з незадаволенасцю адказаў: «Ну глядзіце, зямля круглая, можа калі і вам спатрэбілася б мая дапамога». Журналістка нагадала, што ён мае права задаваць падобныя пытанні толькі пры ўмове заведзенай справы, і тады ён сказаў, што нешта прыдумае, каб вырашыць гэту праблему.

Марына Малчанава кажа, што будзе падаваць скаргу на дзеянні Сяргея Рудзько ў пракуратуру.

**Падрыхтавана паводле сайта spring96.org**

# Працэс у абарону Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**26 чэрвеня суд Цэнтральнага раёна Мінска (суддзя Іван Майсейчык) распачне разгляд грамадзянскай справы супраць Генеральнай пракуратуры ў абарону Курапатаў.**

У скарзе, накіраванай 17 сакавіка, прадстаўнікі грамадскасці прасілі абавязаць Генеральную пракуратуру прадпрыняць дзеянні для выпраўлення парушэнняў заканадаўства аб ахове Курапатаў з боку СТАА «БелРэстІнвест», а таксама для вынасу 4 дамкоў аб'екту прыдарожнага сэрвісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол» з тэрыторыі ахоўнай зоны нерухомай матэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці. Такім чынам павінна быць выканана прадстаўленне Генеральнай пракуратуры Мінскаму аблвыканкаму ад 27 лістапада 2012 года.

Сярод заяўнікаў скаргі — старшыня ГА «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» 85-гадовы Вацлаў Нямковіч, старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, грамадскія дзеячы і навукоўцы Вацлаў Арэшка і Вінцук Вячорка, а таксама грамадскі актывіст Алесь Макаў, які восенню 2008 года затрымаў у Курапатах вандалаў, за што пазней страціў працу.

Аднак 24 сакавіка Майсейчык адмовіўся разглядаць скаргу. Сярод матываў адмовы — і тое, што сп. Нямковіч не паказаў свайго пасведчання старшыні арганізацыі, хоць ён мог гэта зрабіць на пасяджэнні, якога не было; і неіснуючыя «адносіны ў пытанні ажыццяўлення права ўласнасці» паміж заяўнікамі і «БелРэстІнвестам», і тое, што Генпракуратура «не разглядала зварот заяўнікаў па сутнасці», а таму і абскарджваць нібыта няма чаго. Да таго ж, у парушэнне часткі 3 артыкулу 16 Грамадзянска-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, суддзя Іван Майсейчык сваю пастанову ад 24 сакавіка накіраваў заяўнікам па-руску, нягледзячы на тое, што скарга ў суд была выкладзена на беларускай мове.

Заяўнікі палічылі незаконнай, беспадстаўнай і падлеглай скасаванню пастанову суду Цэнтральнага раёну, які адмовіўся ўзбуджаць грамадзянскую справу супраць Генпракуратуры, і накіравалі ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суду прыватную скаргу на пастанову суддзі Івана Майсейчыка з просьбай адмяніць яе і перадаць пытанне на разгляд у той жа суд першай інстанцыі.

Сваёй пастановай ад 22 мая судовая калегія Мінгарсуду пад старшынствам Наталлі Жупікавай падтрымала пазіцыю заяўнікаў і абавязала суд першай інстанцыі распачаць грамадзянскую справу па скарзе абаронцаў Курапатаў супраць Генеральнай пракуратуры.

# Спартоўцаў хочуць пакінуць без грошай

**Бліжэйшым часам пачнецца ліквідацыя магілёўскага валейбольнага клуба «Тэхнапрыбор», і яго прызнаюць банкрутам. Такім чынам, ніхто са спартоўцаў не атрымае ні капейкі.**

Перад гэтым дублёрскі склад валейбольнай каманды «Тэхнапрыбор» у судзе заміръўся з дырэкцыяй клуба. Там жа былі вызначаны памеры грашовых выплат па заробках за восем месяцаў.

Пазней каманда на чале з трэнерам падала пазоў, каб спагнаць заробкі яшчэ за тры месяцы, аднак дырэкцыя клуба пачала хітраваць, і ў судзе высветлілася, што ўвесь склад дублюючай каманды звольнілі за прагулы заднім чыслом яшчэ ў сакавіку месяцы.

Тады трэнер Уладзімір Маштапа і адзін з гульцоў каманды Антон Бандарэнка падалі заяву ў суд аб адмене незаконнага загада аб звальненні і скасаванні працоўных кантрактаў па артыкулу 41 Працоўнага кодэкса з выплатай трох сярэднямесячных заробкаў і двухтыднёвай грашовай дапамогі, а таксама кампенсацыі маральнай шкоды.

Суд пастанавіў выплаціць дырэкцыі валейбольнага клуба трэнеру і гульцу амаль 60 мільёнаў рублёў, аднак не задаволіў кампенсацыю маральнай шкоды.

«З камандай паступілі не самым лепшым чынам. Іх без усялякіх папярэджанняў у сярэдзіне ігравога сезона адхілілі ад выступу ў чэмпіянаце, аднак нікога не звольнілі. Валейбалісты пад кіраўніцтвам трэнера працягнулі свае трэніроўкі на вуліцы пасля таго, як іх пазбавілі яшчэ і спартовай залы. У судзе нават ніхто не запытаў, дзе яны трэніраваліся, а паказанні сведкаў не былі ўзяты да ўвагі. Спартоўцам без іх ведама былі істотна зніжаны заробкі, што і стала падставай для звальнення двух чалавек па артыкулу 41 Працоўнага кодэкса. Яны, канешне, задаволеныя такім вынікам, аднак зараз пачаўся працэс ліквідацыі гарадскога валейбольнага клуба, і ёсць небяспека таго, што яго прызнаюць банкрутам, усе пазыкі спішуць, а спартоўцы не атрымаюць ні капейкі», — кажа юрыстка незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Алена Барысава.

Спартоўцам асноўнага складу таксама істотна ўрэзалі заробкі, аднак яны пакуль не спяшаюцца бараніць свае правы праз суд.

Заснавальнікамі валейбольнага клубу «Тэхнапрыбор» з'яўляюцца 10 арганізацый горада, сярод якіх магілёўскія гарвыканкам і аблвыканкам. Адказным за развіццё валейбола ў вобласці з'яўляецца намеснік старшыні аблвыканкама Аляксей Якаўлеў, які неаднаразова абяцаў вырашыць існуючыя праблемы клуба. Вось каб гэта быў хакейны клуб...

**Паводле spring96.org**

# Легіён рускай арміі ў Мінску

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**11 чэрвеня пры ўдзеле пасла Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мілана Экерта і ваеннага аташэ Томаша Зіпфэла ў фае сталічнага кінатэатра «Перамога» адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Чэхаславацкія легіёны ў Расіі».**

У экспазіцыі прадстаўлены фатаграфіі з чэшскіх і расійскіх архіваў.

Асаблівую цікавасць выклікаюць здымкі, на якіх адлюстраваны ўдзел чэшскіх легіянераў у баях у Беларусі (лета 1915–1917 гг.), а таксама знаходжанне чэхаславацкіх жаўнераў у Бабруйску.

Варта нагадаць, што ў 2013 годзе на тэрыторыі цытадэлі на Бярэзіне было знойдзена месца, дзе ў 1917 годзе былі пахаваныя чэшскія легіянеры. Зараз Прага сумесна з беларускімі ўладамі вырашае пытанне аб усталяванні мемарыяльнага знака на месцы пахавання.

Таксама ў рамках выставы быў паказаны фільм «Збароў», які распавядае аб удзеле чэхаславацкага легіёну ў крывапралітных баях Першай сусветнай на тэрыторыі Украіны.

Вечар, прысвечаны гісторыі чэхаславацкіх легіёнаў рускай арміі, прайшоў у рамках кінафестывалю «1914 revisited», арганізаванага амбасадамі Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, ЗША і Чэшскай Рэспублікі сумесна з Інстытутам Гётэ, Дзяржфільмафондам Расіі і кінастудыяй «Беларусьфільм».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Няўжо гэта здарылася?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ва ўладных колах Беларусі адбылася сапраўдная сенсацыя. У выніку нарады па праблемах аграпрамысловага сектара Аляксандр Лукашэнка не стаў падпісваць указы і распараджэнні, а даручыў правесці экспертызу прапанаваных яму праектаў.**



photo.bymedia.net

У нумары за 16 мая наш эканамічны аглядальнік Тацяна Лісічэнка разабралася, што падрыхтаваныя ўказы могуць не падтрымаць, а наадварот, забіць сельскую гаспадарку. Альбо Аляксандр Рыгоравіч нас чытае, альбо зразумеў гэта сам. Ён даручыў Мінэканомікі і Мінфіну сінявокай «у самы бліжэйшы час даць яму разлікі магчымых фінансавых наступстваў праектаў указаў, прапанаваных рабочай групай, для эканомікі краіны, перш за ўсё, для бюджэтнай сферы».

Ён яшчэ раз папярэдзіў, што не дазволіць спісання пазыкаў сельгаспрадпрыемстваў. «Падарункаў тут ніякіх няма. Ніхто нічога нікому спісваць не будзе. Усім давядзецца разлічвацца. Будзем падтрымліваць сельгасвытворцаў, але не за кошт усёй дзяржавы і народа», — заявіў Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы таксама адзначыў, што «сельская гаспадарка — тая сфера, якая не любіць рэвалюцыйных пераўтварэнняў».

Можа быць, гэта азначае, што ў сельскай гаспадарцы краіны нічога не зменіцца. А можа быць і тое, што дзяржава нарэшце падлічыла грошы, якія выдзяляюцца гэтай галіне вытворчасці, засунула руку ў кішэню (бюджэт), і высвятліла — кішэня не толькі пустая, але і з дзіркамі. У любым выпадку, на месцы беларускага правадыра я б засцярогся ад нейкіх радыкальных крокаў у той час, калі праца ў вяскоўцаў — у напружанай кропцы. Вось калі прыйдзе восень, збяром ураджай, і дзе-небудзь у лістападзе самы час разбірацца з сельскай гаспадаркай, каб да сакавіка, да пачатку сяўбы, усе пераўтварэнні набылі моц і ўкладзіся ў галовах кіраўнікоў АПК.

Наконт дзіравай кішэні — таксама нездарма было казана. Мы ўсе спадзяваліся, што заробім буйныя грошы на Чэмпіянаце свету па хакеі. Буйных не атрымалася, хіба што наша хакейная федэрацыя выйшла ў невялікі «плюс». А тым часам валютная сітуацыя ў Беларусі склалася зваротнай: у маі пастаўлены рэкорд бягучага года па чыстай скупцы замежнай валюты фізічнымі асобамі. Акрамя таго, максімальным з пачатку года апынуўся і сумарны аб'ём чыстай куплі замежнай валюты на ўсіх сегментах валютнага рынку. У параўнанні з красавіком, ён вырас больш чым у 22 разы, з $13 мільёнаў да $292 мільёнаў.

За першыя пяць месяцаў года ва ўсіх сегментах валютнага рынку склаўся чысты попыт на замежную валюту, прычым прыкладна роўны па аб'ёме: доля «мінусу» рынка суб'ектаў гаспадарання — рэзідэнтаў Беларусі ў агульным «мінусе» ўсяго валютнага рынку — 33,1%, нерэзідэнтаў — 38,9%, фізічных асоб — 28%.

Май 2014-га — найгоршы ў гэтым плане за ўсе папярэднія гады, уключаючы і май крызіснага 2011 года. Аднак пры гэтым варта адзначыць, што ў маі 2011-га рынак наяўных валют амаль цалкам сышоў у «цень», набыць замежную валюты ў абменных пунктах стала практычна немагчыма і фіксаваныя валютаабменныя здзелкі складалі толькі частку валютнага рынку фізічных асоб.

Між тым, узяць валюту няма адкуль. За студзень-красавік Беларусь страціла мільярд долараў у знешнім гандлі. Планы ўрада па павелічэнні экспарту на гэты год пакуль моцна разыходзяцца з фактам. Адмоўная дынаміка валютнай выручкі на фоне значных плацяжоў па вонкавых абавязках (за крэдыты ў гэтым годзе давядзецца заплаціць 3,2 мільярда долараў) і ў расійскі бюджэт (каля 300 мільёнаў долараў штомесяц у якасці экспартнай пошліны за нафтапрадукты) прымушае ўлады шукаць грошы для падтрымання фінансавай стабільнасці ў краіне.

У такой сітуацыі «закопваць грошы ў зямлю», хай і ў выглядзе падтрымкі сельскай гаспадаркі, — самазабойства. Пэўна, нарэшце гэта стала зразумела і ва ўладных колах.

Але гэтая нарада запомніцца не толькі «адфутбольваннем» на экспертызу праектаў указаў, але і нечаканым паваротам думкі беларускага правадыра. Разважаючы пра сельскую гаспадарку, Аляксандр Рыгоравіч раптоўна надаў частку ўвагі і настаўнікам.

Лукашэнка, як кажуць, «не адыходзячы ад касы», даручыўшы да 1 верасня арганізаваць нараду, на якой павінны быць абмеркаваныя праблемныя пытанні сістэмы адукацыі. «Я мяркую, што адпаведная група вывучае, а дакладней, сістэматызуе пытанні, каб нарэшце вызваліць настаўнікаў ад неўласцівых ім функцый і прымусіць іх займацца толькі сваёй справай — перадачай ведаў, навучаннем дзяцей і выхаваннем іх», — сказаў Лукашэнка. «Напэўна, на ўзроўні міністэрства і ўрада гэта не ўстане зрабіць. Але майце на ўвазе, што і міністр, і ўрад атрымаюць адпаведную за гэта адзнаку. І гэта не значыць, што варта сядзець і чакаць новай нарады і прыняцця рашэнняў на самым высокім узроўні», — падкрэсліў ён.

Ужо шмат год настаўнікі енчаць, што замест навучання і выхавання ім прыходзіцца запаўняць безліч анкет і апытанак. Здаецца, гэтыя енкі дасягнулі вушэй маладога пакалення. Пэўна, Мікалай Аляксандравіч паскардзіўся свайму бацьку, Аляксандру Рыгоравічу, на тое, што творыцца ў школах, і для Лукашэнкі гэта стала настолькі балюча, што ён нават на нарадзе па сельскай гаспадарцы не вытрымаў.

Павольна, ціхенька, але мы прасоўваемся наперад і ў іншых галінах. Пагадненне аб лібералізацыі візавага рэжыму і рэадмісіі паміж Беларуссю і ЕС, магчыма, будзе гатовае да канца 2015 года, заявіў на тыдні міністр замежных справаў Уладзімір Макей.

«Я не хацеў бы зараз ставіць канкрэтныя тэрміны. Мы будзем спакойна працаваць над тым, каб дасягнуць узаемапрымальнага па змесце і па форме дагавора па адпаведных пагадненнях аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі з Еўрасаюзам. Але давайце пазначым у якасці аднаго з магчымых арыенціраў гэтую дату — правядзенне саміту «Усходняга партнёрства» ў канцы 2015 года», — сказаў Макей.

«Зразумела, што гэта працэс працяглы з улікам таго, што там можа быць шэраг нейкіх падводных камянёў і цяжкасцяў. Гэта ўжо праца экспертаў», — папрасіў Макей «крышачку пачакаць».

Што ж, беларусаў не ўпершыню просяць «крыху пачакаць дзеля светлай будучыні». Але мы будзем чакаць з нецярпеннем. Проста цікава, як Макей будзе разрывацца паміж Усходам і Захадам у 2015-м: і ЕАЭС запускаем, і візавы рэжым з ЕС спрашчаем. А там яшчэ і прэзідэнцкія выбары. Цікава будзе? Канешне.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Макей



**Кіраўнік беларускага МЗС рызыкуе атрымаць сур'ёзнае прафесійнае захворванне: падваенне асобы.**

10 чэрвеня Макей правёў сустрэчу з часовым паveraным у справах ЗША ў Мінску Ітанам Голдрычам, які завяршае сваю дыпламатычную місію ў Беларусі. «Бакі разгледзелі асноўныя вынікі беларуска-амерыканскіх адносін за два апошнія гады, на працягу якіх Ітан Голдрыч узначальваў пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі. Абмеркаваны таксама далейшыя перспектывы двухбаковага супрацоўніцтва Беларусі і ЗША», — адзначалася ў паведамленні МЗС.

На наступны ж дзень Абама працягнуў на год санкцыі ў дачыненні да Беларусі. «Падаўжэнне прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам на адзін год тэрміну дзеяння выканаўчага загаду ў дачыненні да Беларусі, які быў выдадзены прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам у 2006 годзе, сведчыць аб тым, што ў амерыканскай палітыцы па-ранейшаму пераважае санкцыйная рыторыка, контрпрадуктыўныя спробы выкарыстоўваць сілавыя метады і нежаданне выбудоўваць міжнародныя адносіны на нармальнай аснове», — заявіў беларускі МЗС.

Падобныя рашэнні перашкаджаюць развіццю беларуска-амерыканскіх адносін, дадалі ў МЗС. Так што Макей, з аднаго боку, абмяркоўвае супрацоўніцтва, якога, з іншага боку, няма.

## Ігар Аліневіч



**Палітвязня Ігара Аліневіча этапуюць з наваполацкай калоніі. Куды — пакуль не вядома.**

У Ігара Аліневіча 5 чэрвеня адбылося кароткатэрміновае спатканне з маці. «5 чэрвеня ў нас было планавае кароткатэрміновае спатканне. Усё ў асноўным па-старому, праўда, у канцы мая выйшаў указ аб расфармаванні гэтай калоніі на працягу трох месяцаў. Такім чынам Ігара адправяць у іншае месца пазбаўлення волі, але куды — пакуль не вядома. У любым выпадку так будзе лепш, таму што экалогія ў Наваполацкай калоніі № 10 жудасная», — адзначыла Валянціна Аліневіч.

Нагадаем, 27 мая 2011 года суддзя Заводскага раёна Мінска Жанна Хвайніцкая асудзіла Ігара Аліневіча на 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Аліневіча, а таксама Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча абвінавацілі ў арганізацыі шэсця ля будынка Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла» і ізалятар на Акрэсціна, а таксама падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка». Цяпер Аліневіч адбывае пакаранне ў Наваполацкай калоніі №10, якая вядомая сваімі дрэннымі ўмовамі ўтрымання вязняў.

## Меліціна Станюта



**Беларуская гімнастка ўвайшла ў тройку лідараў сусветнага рэйтынгу ў індывідуальным мнагаборʼі.**

Меліціна Станюта заняла на этапе Кубка свету ў Мінску 2-е месца ў гэтым відзе праграмы і атрымала 25 рэйтынгавых балаў. Усяго на рахунку беларускі цяпер 99 заліковых балаў, што дазволіла ёй акупаваць 3 радок сусветнага рэйтынгу ў алімпійскай дысцыпліне. Вядучыя пазіцыі ў ім займаюць дзве расіянкі — Яна Кудраўцава (135 балаў) і Маргарыта Мамун (130).

Што тычыцца рэйтынгу ў асобных практыкаваннях, то Станюта ва ўсіх чатырох з іх таксама ўваходзіць у тройку лепшых. Другія месцы яна займае ў двух відах (абруч — 110 балаў, стужка — 109). У практыкаваннях з мячом (110) і булавамі (105) гімнастка ідзе трэцяй.

На этапе Кубка свету, які праходзіў у Мінску з 30 мая па 1 чэрвеня, Меліціна Станюта чатыры разы ўздымалася на п'едэстал у асабістых спаборніцтвах. Да срэбнай узнагароды ў мнагаборʼі яна дадала золата ў практыкаванні са стужкай, а таксама дзве бронзы ў кампазіцыях з мячом і булавамі. Беларуская каманда «групавічак» стала другой у практыкаваннях з 10-ю булавамі. Пасля гэтага кубкавага этапу ўся беларуская зборная пачала заключны этап падрыхтоўкі да чэмпіянату Еўропы–2014, які стартуе 13 чэрвеня ў Баку (Азербайджан).



# Пакуль кроў не азмрочыла розум

**Калі я вярнуўся дадому з Украіны пасля трохмесячнай камандзіроўкі, у мяне спачатку нібыта ўсё выветрылася з галавы. Як быццам і не было гэтых трох месяцаў. Мне кажуць — давай, расказвай.**



Зміцер ГАЛКО

У галаве пракручваюцца пейзажы з тэрыконамі на даляглядзе, блокпосты на дарогах, і ты намагаешся разгледзець здалёк, які ў іх там сцяг, бачыш чорна-сіне-чырвонае палотнішча — і ўсё ўнутры сціскаецца… Хіба гэта са мной было? Нейкія карцінкі з дурнога сну. Няма пра што расказваць.

Ці раптам з'явіцца зусім іншае адчуванне. Я тут нешта раблю, хаджу, размаўляю і ўсё такое іншае, а насамрэч — гэта сон, я ж недзе ў іншым месцы знаходжуся. Сябра жартам выказвае здагадку — зараз ачуняеш на блокпосце, а цябе сепаратысты б'юць нагамі: «На табе, сволач бандэраўская! На! Атрымай!..» Ага, кажу, або ляжу ў бальнічнай палаце пасля аперацыі, яшчэ ад наркозу не адышоў. А ў самога ад уласных слоў халадок па спіне прабягае.

## Усім выйсці, рукі на машыну

Гэта было вар'яцкай ідэяй — уязджаць ноччу ў Данецк на таксі. Аднаму з французаў тэрмінова трэба было патрапіць дадому, бо ў яго ўжо быў квіток на ранішні цягнік, у маскоўскага калегі ўключыўся рэжым «дзе наша не прападала», усе ўжо былі стомленыя пасля цяжкага дню, таму лёгка паддаліся спакусе хутчэй патрапіць дадому.

Толькі італьянец адчайна лаяўся на італьянскай, але яму давялося падпарадкавацца — нас было шасцёра, ён адзін. Козіма настойліва заклікаў застацца яшчэ ў Краснаармейску, у горадзе за 70 кіламетраў ад Данецку. Тут, за 20 кіламетраў, на чыгуначным вакзале ў Ясінаватай, ён крычаў: «Слухайце, ну куды вы, давайце хаця б паямо, кавы вып'ем, падумаем! Dai cazzo! Vaffanculo! Puttana Eva!..» Ён меў рацыю, тут варта было брудна лаяцца. Мабыць, за ягоную абачлівасць воляю лёсу іх таксі на блокпосце не спынілі.

Нашае спынілі. Па абодва бакі людзі з аўтаматамі. Усім выйсці, рукі на машыну, стаяць, баяцца. Хто такія? Адкуль? З якой мэтай? Прад'явіце дакументы.

Добра, што хлопцы загадзя, хто ў майткі, хто ў шкарпэткі, пахавалі карткі памяці з адзнятым за дзень матэрыялам з прэзідэнцкіх выбараў у свабодных ад сепаратыстаў раёнах Данецкай вобласці. Напярэдадні было аб'яўлена, што ўсе, хто прыме ўдзел у выбарах у любой якасці — галасавальніка ці назіральніка, будзе разглядацца як «вораг народу». У іх на картках, апроч выбараў, яшчэ і батальён «Днепр», удзельнікі дабрапольскай Самаабароны, цяжка паранены ўкраінскі салдат, у кагосьці быў здымак побач з агітацыйным плакатам лідара «Правага сектару» Дзмітрыя Яраша. А ці добра схавалі гільзы, падабраныя на месцы бою ў Дабрапольскім раёне?

Я лезу дастаць пашпарт, як раптам рука мярцвее — днём я дзесьці падабраў прыгожа сплеценую, доўгую жоўта-блакітную стужку. І сунуў яе ў тую ж кішэню, дзе ляжаў пашпарт. Ну ўсё, думаю, хлопец, тушы святло. Чаго ўжо тут бэкаць-мэкаць, прыдумляючы адмазкі, несалідна неяк.

Ажно тут праз блокпост спрабуе на вялікай хуткасці праскочыць легкавушка. Сепаратысты, якія збіраліся нас абшукваць, кідаюцца яе спыняць. Адзін застаецца. Убачыўшы, што мае калегі павярнулі галовы, каб паглядзець, што будзе з той машынай, ён, перадзёрнуўшы затвор і пераводзячы ствол з аднаго на іншага, закрычаў: «Не бегаць мне тут вочкамі, не бегаць! Перастраляю зараз на…!»

Карыстаючыся момантам, са спрытнасцю фокусніка я выцягнуў з кішэні пашпарт. Заставалася спадзявацца, што на вокладку з Пагоняй і ўкладзены ўнутр абразок, падпісаны па-ўкраінску каталіцкай манахіняй Бернадэттай з Наваград-Валынскага, увагі яны не звернуць.

Падышоў камандзір. Яму паведамілі: «Тут у нас замежныя грамадзяне». Першым ён узяў пашпарт у мяне і адразу выгукнуў: «О, Беларусь! Дык якія ж гэта замежныя грамадзяне, вы што, адурэлі зусім?! Свае людзі!» Але аднаго беларускага пашпарта не хапіла, каб зняць з нас усе падазрэнні. У нас яшчэ было два французскіх і адзін брытанскі пашпарт.

Я ліхаманкава спрабаваў адказаць сабе на пытанне, ці будзе прыроўнены да «ворага народу» журналіст, які асвятляў прэзідэнцкія выбары. Але ніякай легенды ў нас не было, спроба імправізацыі магла завесці невядома куды, дый што тут скажаш — ездзілі на пікнік? Як перакладчык, я мусіў адказваць за ўсіх. Толькі пакуль я думаў, на пытанні пачаў адказваць брытанец Філіп, прычым на дастаткова чыстай рускай мове: «Мы назіралі… мы асвятлялі сітуацыю падчас выбараў».



Батальён «Усход»




Сябры-калегі Зміцера Галко: італьянец Козіма Атанасія і француз Том Жырандэль



У лагеры ўкраінскіх вайскоўцаў



Сепаратыст у атачэнні журналістаў

У адказ камандзір блокпоста ўскіпеў: «У нас не было ніякіх выбараў! Тут вайна ў нас, разумееш, ты!..» Неасцярожна кінутае слова «назіраць» і руская мова брытанца выклікалі ў сепаратыстаў прыступ агрэсіўнай падазронасці: «Дык вы з АБСЕ, назіральнікі? А на халеру табе перакладчык, калі ты сам усё разумееш і гаворыш па-руску? Можа, вы шпіёны?!» Твары скамянелі. Затворы адзін за другім клац-клац.

Добра, што ў фотаапаратах хлопцы пакінулі не чыстыя карткі памяці, а з нявіннымі здымкамі, зробленымі ранкам. На ўчастках малалюдна, выбарчыя скрыні амаль пустыя. «Глядзі ж, дык яны праўду паказваюць — што ніхто на гэтыя выбары не прыйшоў!» — радасна выгукнуў адзін з сепаратыстаў.

## Праўда — гэта тое, у што ты верыш

Адносіны з праўдай тут вельмі простыя. Калі штосьці ўпісваецца ў тваю карціну рэальнасці — значыць, праўда. У адным з данбаскіх гарадкоў, дзе праходзілі выбары, мы гутарылі з даволі вялікай групай маладзёнаў, якія разам прыйшлі галасаваць, здымалі іх. Дык міліцыянт і жанчына — чальцы выбарчай камісіі, якія спачувалі сепаратыстам, пачалі перашэптвацца: «Бач ты, замежнікі гэтыя ім заплацілі, каб яны галасаваць прыйшлі. Карцінку ілжывую стварыць хочуць». Нават выштурхнулі нас з выбарчага ўчастку з нейкай надуманай прычыны.

За «праўдзівае» асвятленне прэзідэнцкіх выбараў на Данбасе некаторыя сепаратысты хацелі адразу ж нас адпусціць, але камандзір не хацеў так хутка з намі расставацца. «Я сам фатограф, і добра ведаю, як лёгка схаваць карткі памяці пры патрэбе. Варта іх абшукаць з ног да галавы», — кінуў ён. Тут я сабе яшчэ раз сказаў, што ўсё, хлопец, цяпер дакладна тушы святло.

Праўда, у самога камандзіра раптам з'явіліся нейкія неадкладныя справы, ён адышоў.

А падчас паўзы, якая ўзнікла, сепаратысты заўважылі, што адзін з французаў збялеў, трасецца, ледзь не валіцца з ног. Хлопец, які мусіў быць самым стойкім з нас, бо пяць гадоў служыў у французскай паліцыі. Я пачаў тлумачыць, што ў яго квіток на ранішні цягнік, потым на самалёт, ён вельмі перажывае, баіцца, што згараць квіткі, а грошай у яго амаль не засталося. І згадаў, што ён, дарэчы, напалову серб. Папрасіў, каб ён паказаў татуіроўку на плячы ў выглядзе шаўрона сербскай арміі. «Сербы мусяць ведаць, што такое вайна, мусяць зразумець нас», — сказаў хтосьці з сепаратыстаў. Гэта зняло напругу, за прадстаўніка брацкага народу пачалі перажываць, прасілі супакоіцца. Урэшце нават прапанавалі каву, якую прынеслі яму ў камплекце з георгіеўскай стужкай. Загад камандзіра абшукаць нас з ног да галавы неяк сам сабой забыўся.

Увесь гэты час, пакуль мы былі на блокпосце, а мы там правялі больш за гадзіну, хлопцы з першай машыны не ведалі, што з намі. Апроч таго, што нас затрымалі, аб чым наш вадзіцель сказаў іхнаму. Потым сувязі не было, бо вадзіцель таксама мусіў стаяць з машынай разам з намі.

Абодва таксісты былі прыхільнікамі ДНР, але іхны аказаўся нейкі зусім дурнаваты. Ён хаміў, злараднічаў, пагражаў: «Ага, затрымалі вашых сяброў, значыць, нешта там такое ў іх было. Можа, і ў вас таксама ёсць? Ці не адвезці вас да іх на блокпост?»

Наш таксіст паводзіўся інакш, пачаў выбачацца, калі мы развітваліся ў Данецку: «Вы ж зразумейце, калі яны знішчаць нас, яны пойдуць на Еўропу, фашысты гэтыя! Вы ж растлумачце ў сябе там, што сітуацыя вельмі сур'ёзная, мы і вас тут абараняем».

Усе мы за гэты час пракручвалі ў памяці жахлівыя карціны з узятымі ў палон, збітымі, закатаванымі... Таму, калі нарэшце сустрэліся ў хостэле, абняліся, нехта нават плакаў.

### Мы павінны быць проста журналістамі

Перад тым у нас была гісторыя, калі ў Данецку нас браў на прыцэл снайпер каля шпіталю, дзе нібыта знаходзіліся параненыя ўкраінскія вайскоўцы, якіх баявікі ДНР хацелі выкрасці. Мы разбегліся, нас пераследавала па горадзе машына з узброенымі людзьмі, ад якой, блукаючы і задыхаючыся, давалося сыходзіць дварамі і завулкамі. Нервы ва ўсіх былі на ўзводзе. Любая падазроная машына пад вокнамі хостэлу выклікала новы прыступ паранойі. Адзін француз не вытрымаў, крычаў: «Нельга так пастаянна баяцца! Гэта вы самі паставілі сябе ў такое становішча! Вы баіцеся, бо пачалі ўспрымаць сябе актывістамі ўкраінскага боку. Мы ж павінны быць проста журналістамі... Проста быць аб'ектыўнымі, заставацца па-над сутычкай, тады ўсё будзе добра!»

Зрэшты, потым ён сам прызнаў, што магчымасць аб'ектыўнасці ў гэтай сітуацыі — ілюзія. Бо ў разуменні сепаратыстаў аб'ектыўным з'яўляецца толькі тое, што супадае з іхнымі перакананнямі. Нацгвардыя і «Правы сектар» забіваюць адзін аднаго, авіяцыя бамбіць цывільнае насельніцтва, вакол адны фашысты, якія ненавідзяць насельніцтва Данбасу, бо яно рускамоўнае і праваслаўнае. Ты з чымсьці не згодны? Значыць, вораг.

Наступным днём стрэлам у галаву забілі жанчыну каля чыгуначнага вакзалу на нашых вачах падчас бою за аэрапорт. Верталётаў у небе не было, перастрэлка тут не вялася. Вакол яе мёртвага цела перад камерамі бегаў мужчына і крычаў: «Глядзіце, глядзіце, што гэтыя бандэраўцы нарабілі!»

Ва ўсіх нас склалася ўражанне, што яна была застрэленая адмыслова — каб было сведчанне жахлівых злачынстваў «крывавай хунты». Але ці можна было тое аб'ектыўна высветліць? Пытанне рытарычнае.

Для многіх з нашай каманды гэта стала апошняй кропляй — пачалі раз'язджацца.

### «Я ведаю праўду і магу даказаць!»

Калі я яшчэ заставаўся ў Данецку, атрымаў смс-паведамленне ад майго калегі і сябра Козімы Атанасія, італьянскага журналіста, які адсюль спешна выехаў: «Мы ў бяспецы, ужо пакінулі кляты Данбас і зараз знаходзімся ў цывілізаваным месцы. Слава Украіне!»

Слова «сепаратызм» для еўрапейца не з'яўляецца лаянкай, ён гатовы паважаць права на самавызначэнне, калі камусьці вельмі карціць самавызначацца, таму многія еўрапейскія журналісты, прыязджаючы, напачатку цалкам нейтральна ставіліся да «народных рэспублік». Козіма таксама не прыехаў сюды з упэўненасцю, што Данбас «кляты», а Украіна — «цывілізаваная». Гэтае стаўленне склалася ў яго пасля ўласнага досведу знаходжання тут. Бо з боку сепаратыстаў ён бачыў глупства, агрэсію, падазронасць і кантроль, а з боку ўкраінцаў — прыязнасць і гасціннасць.

Не для ўсіх такі выбар з'яўляецца самавідавочным і адзіным магчымым. Іншы італьянец, саракагадовы Крысціян Малапартэ, які жыў з намі ў хостэле, на поўным сур'ёзе называў Расію «самай дэмакратычнай краінай у свеце», украінскую ўладу — фашысцкай хунтай, а баявікоў ДНР — мірнымі пратэстоўцамі. Ён чакаў моманту, калі зможа ўзняць келіх віна за перамогу Расіі над ЗША, бо ад апошніх усё злое ў свеце, у тым ліку вайна ва Украіне. Нават падумваў аб тым, каб запісацца ў батальён «Восток». «Я ведаю праўду і магу даказаць!» — казаў ён, адкрываючы сюжэт тэлеканалу «Russia Today» на сваім ноўтбуку. Пры гэтым ён не выглядаў вар'ятам, ведаў некалькі моваў, быў досыць эрудзіраваным, пісаў вершы.

На мой погляд, усё, што ён казаў, было трызненнем сівой кабылы. Але ж мы неяк ужываліся ў адным памяшканні, нават спакойна гутарылі часам. Хацелася б верыць, што ва ўкраінцаў з дыяметральна рознымі поглядамі таксама атрымаецца, кроў не азмрочыць розум канчаткова...



# «Канатчыкава дача» пераехала ў Крэмль

Генадзь КЕСНЕР

**Памятаеце, як калісьці спяваў славуты Уладзімір Высоцкі: «Дорогая передача! В воскресенье, чуть не плача, вся Канатчикова дача к телевизеру рвалась».**

Сёння ж складваецца ўражанне, што патэнцыйныя пацыенты гэтай у свае часы вядомай на ўвесь СССР псіхіятрычнай клінікі перамясціліся за крамлёўскія муры.

На «круглым стале» ў Маскве дарадца прэзідэнта Уладзіміра Пуціна Сяргей Глазьеў прапанаваў нанесці з боку Расіі ўдар па ўкраінскай арміі, каб не даць ёй узмацніцца. «Хачу нагадаць словы Чэрчыля: «Той, хто паміж ганьбай і вайной выбірае ганьбу, атрымлівае і вайну, і ганьбу адначасова». Гэта сучасная вайна. Гэта не азначае, што нам трэба рухаць нашы танкі на Кіеў, але, па меншай меры, спыніць генацыд насельніцтва мы маем права», — сказаў «саветчык». І дадаў: «Для гэтага дастаткова закрыць неба і выкарыстоўваць той жа механізм падаўлення ваеннай тэхнікі, які ўжылі тыя ж амерыканцы ў Лівіі, якія спачатку зачынілі неба, затым з паветра расстралялі бронетэхніку, артылерыю, авіяцыю і такім чынам зрабілі той рэжым, з якім яны ваявалі, небаяздольным. У нас яшчэ ёсць магчымасць гэта зрабіць, праз паўгода такой магчымасці ўжо не будзе», — заявіў Глазьеў.

І вось яшчэ адзін пасаж высокага пуцінскага дзеяча: «Мы атрымліваем магутную ваенную машыну, арыентаваную супраць нас, нашпігаваную нацыстамі, ідэалагічна зараджанымі супраць Расіі. Канчатковай мэтай гэтага дзеяння з'яўляецца вайна з Расіяй. Мы не зможам, страціўшы Данбас, захаваць мір, паколькі наступная мэта, якая дэкларуецца, — Крым».

Наколькі Крым ды Данбас расійскія — гэта лепш пакінем па-за дужкамі.

Ці ж нармальны ў псіхічным плане чалавек разам з памагатымі ў XXI стагоддзі мог вырашыць перакроіць геаграфічныя і палітычныя межы насуперак усім міжнародным пагадненням, падпісаным пасля Другой сусветнай вайны, рызыкуючы падсунуць Еўропе новую, яшчэ большую — з улікам сучасных магчымасцяў — вайну? (А яе пачатак ужо праглядаецца).

Ці ж нармальны чалавек (няхай і высокі маскоўскі чыноўнік) будзе вяшчаць, што хтосьці сёння збіраецца ваяваць супраць Расіі, якая ў новым тысячагоддзі ўжо правяла пяцідзённую вайну супраць Грузіі, фактычна адцяпаўшы Паўднёвую Асецію і Абхазію? Дарэчы, пасля адарвання апошняй ад Грузіі там назіраецца поўная галеча і заняпад, што ўжо прывяло да бунту і ўцёкаў маскоўскага стаўленіка Анкваба. Аналагічная сітуацыя (і гэта толькі праз некалькі месяцаў пасля анексіі!) назіраецца ў Крыме, дзе з паліц у крамах знікла амаль усё, а месцічы нясуць істотны ўрон з той прычыны, што курортны сезон на паўвыспе ўжо фактычна сарваны. Які нармальны псіхічна чалавек-замежнік добраахвотна рынецца ў расійскія кіпцюры?

Ці будзе нармальны чалавек, тым больш кіраўнік велізарнай краіны, спачатку казаць, што ніводнага расійскага вайскоўца ў Крыме няма, а потым, пасля анексіі, сотнямі ўзнагароджваць «зялёных чалавечкаў» медалямі «За возвращение Крыма» і казаць, што менавіта расійскія вайскоўцы самым актыўным чынам паспрыялі «восстановлению исторической справедливости»? Гэты дзеяч, у першую чаргу, хлус. Прычым, хлус нездаровы. Але вернемся да Глазьева.

Паранойя — адно з небяспечных псіхічных адхіленняў і нават захворванняў. У Глазьева — усе яе прыкметы і сімптомы. Як і ў гістэрыкаў-падлізантаў з афіцыйных (а неафіцыйных СМІ, як і ў Беларусі, тамака амаль не засталося) расійскіх сродкаў масавай прапаганды, якія абалваньваюць мільёны сваіх і чужых грамадзянаў наконт вялікай пагрозы «ўкраінскага бандэраўства і фашызму». Прычым доктар Гебельс нервова варочаўся б у труне, калі б яго не спалілі ў 1945-м.

Хочацца запытацца: каму вы, галадранцы, патрэбныя? У вашы вёскі страшна заехаць, большасць вашых гарадоў нагадвае сметніцы. А ваш так званы парламент — цырк. Прычым вельмі дарагі, бо вельмі шмат каштуе бюджэтных грошай. Хаця, што мне да вашых грошай.

Некаторыя так званыя народныя абраннікі таксама могуць прэтэндаваць на элітныя ложкі на Канатчыкавай дачы. Той жа Жырыноўскі, калі прылюдна загадвае сваім «быкам» гвалціць цяжарную журналістку ў сценах (!!!) Дзярждумы. Тыя ж гамафобы і гамафобкі, «змагары за сямейныя каштоўнасці» (якія больш нагадваюць пасля сваіх заяваў доктара Менгеле), з той жа ўстановы ці з "парламентаў" Піцера ды іншых гарадоў імперыі, якая «паўстае з кален» (праўда, паўстаць не можа, бо "по все дни пьяна").

Куды ні кінь, паўсюдна клін, «дорогие россияне». З чым вас і віншую. І тая масавая шавіністычная, антыўкраінская істэрыя, якая ахінула вашу неабсяжную, агромністую і непрыбраную арду, сведчыць толькі пра тое, што вы ад самага нізу і да самага верху ператвараецеся ў пацыентаў канатчыкавых дачаў ды кашчанак. І гэта небяспечна, у першую чаргу, для вашых суседзяў.

Як спяваў геніяльны Андрэй Макарэвіч яшчэ перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі ў Расіі, «наш дурдом голосует за Путина». Так, менавіта так, ён, «дурдом», і прагаласаваў, а цяпер галава баліць ва ўсёй Еўропы. Шукайце добрых лекараў, «господа-товарищи», бо ваша хвароба вельмі небяспечная і, галоўнае, заразная.

TV

## 20 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Ваенны дэтэктыўны «Забіць Сталіна» (Расія).
**11.10** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі» .
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.15** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.10** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**20.00** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Камедыйны серыял «Бандыткі» (ЗША).
**23.55** Дзень спорту.
**00.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Маст. фільм «З жыцця адпачываючых».
**10.40** Ералаш.
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** 1812.
**12.05** «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** 1812.
**15.00** «Зваротны адлік».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.25** Мастацкі фільм «Каханая жанчына механіка Гаўрылава».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Серыял «Балада пра Бамбёра».
**00.05** Трылер «Помста».
**01.20** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Лязо ведзьмаў». ЗША, 2000г.
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Коткі супраць сабак».
**22.00, 23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.55** «Вялікая гульня». Покер.
**00.40** Фільм «Паляванне».
**02.10** Ежа багоў.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Нож у аблоках».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.35** Стыль-бюро.
**11.10** Камедыя «Мадлен».
**12.50** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**13.20** Серыял «Рэальныя мальцы».
**14.25** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў. Фінал.
**15.25** Рэпарцёр.
**16.20** Кіпень.
**16.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.20** Малаток.
**17.45** Уласны погляд.
**18.00** Па сакрэце ўсяму свету.
**18.20** Футбол. Агляд дня.
**18.50** Футбол. Італія - Коста-Рыка.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Швейцарыя - Францыя.
**23.50** Тэлебарометр.
**23.55** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**00.55** Камедыя «Дракула: Мёртвы і задаволены гэтым».

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». «Калінка-малінка».
**08.25, 14.10, 17.20, 01.40** «Галасы з мінулага». 75 год з дня нараджэння народнага артыста Беларусі, тэатральнага рэжысёра Валерыя Мікалаевіча Раеўскага.
**08.30** «Бумбараш». Мастацкі фільм паводле твораў Аркадзя Гайдара. 1-я і 2-я серыі.
**10.40** «Нябачны фронт». Георгій Жукаў. Дакументальны фільм. Часткі 3-я і 4-я.
**11.05** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 5-я серыя.
**12.00, 00.50** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста СССР Мікалая Яроменкі-старэйшага.
**12.25** «Размаўляем па-беларуску».
**12.30** «Пайсці і не вярнуцца». Маст. фільм па матывах аднайменнай аповесці В.Быкава.
**13.45** «Калейдаскоп».
**13.55** «Сімвалы эпохі». «Калінка-малінка».
**14.15** «Валерый Раеўскі. P.S.» Дак. фільм.
**14.40** «Музеум». Сядзібны партрэт.
**15.00** «Пісьмы з той вайны...» Дак. фільм, які заснаваны на сапраўдных лістах франтавікоў.
**15.30** «Размаўляем па-беларуску».
**15.35** «Росчырк часу». Творчасць фотамастака, мастацтвазнаўцы Алега Ананьева.
**15.50** «В барабан не бью без толку...» Дакументальны фільм пра гук у кіно.
**16.30** «Настальжы». Заслужаная артыстка Беларусі Людміла Колас.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». «Калінка-малінка».
**17.30** «Скарбніца Гомельшчыны». Графскі горад, або Новае жыццё старой вёскі.
**17.55** Мультфільмы.
**18.25** «Размаўляем па-беларуску».
**18.30** «Падарожжа са смакам». Дардонь.
**19.00** «Мой ласкавы і пяшчотны звер». Мастацкі філь.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 6-я серыя.
**22.05** «Нябачны фронт». Георгій Жукаў. Дакументальны фільм. Часткі 3-я і 4-я.
**22.30** «Узыходжанне». Мастацкі фільм паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў».
**00.20** «АРТиШОК». Творчасць скульптара Канстанціна Селіханава.
**01.15** «Калейдаскоп».
**01.25** «Сімвалы эпохі». «Калінка-малінка».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** Серыял «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** Вострасюжэтны серыял. «Шэф 2».
**23.25** Мастацкі фільм «Шокавая тэрапія».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.25** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**08.55** Чорным па белым: Нацыянальна заангажаваныя п'есы ў сучасным беларускім тэатры.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Партызанскі край XVII ст.
**09.35** Паляванне на дзівосы.
**09.55** «Апантаныя-2», дак. цыкл: Аўтары Вікіпедыі.
**10.05** Назад у будучыню: Вітаўт Вялікі.
**10.15** «Глыбокая вада», серыял: 6 серыя.
**11.05** «Людвіка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**11.40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**17.00** Аўтастопам праз Еўропу: Амстэрдам.
**17.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Алесь Аркуш.
**17.25** «Няпростае вяртанне», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**18.25** Моўнік: Агляд карэспандэнцыі.
**18.35** Англійская для дзяцей.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Апаведы таты Бабра».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню: Грунвальдская бітва.
**19.20** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Тамара Мацкевіч і адукацыя.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Dэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум: Адкуль бярэцца рэвалюцыя?
**22.20** «Вяртанне», драма, 2005 г., Польшча.
**00.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.05** Аб'ектыў.

## 21 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.50** Існасць.
**07.35** Драма «Спакуса» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.30** Дача.
**12.10** Даваряй і правяряй.
**12.50** Здароўе.
**13.30** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы з Беларусі».
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Даваряй і правяряй.
**16.05** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.15** Меладрама «Іншая жанчына» (Украіна).
**19.15** Крымінальная меладрама «Сінія як мора вочы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Двойчы ў адну раку» (Расія).
**23.25** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Смак.
**11.15** Фільм «Бліндаж».
**15.05** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Зорка эпохі.
**17.30** Мастацкі фільм «Няскончаная аповесць».
**19.25** Пачуццё гумару.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Вячэрні Мінск.
**22.15** Мастацкі фільм «Амадэй».
**01.05** «Цой - «Кіно».

### ТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.45** Анфас.
**08.00** Фільм «Коткі супраць сабак».
**09.00** «Чыстая праца».
**09.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Сын палка «.
**14.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.35** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Вакол свету за 80 дзён».
**22.20** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.25** Фільме «Адкрытае мора». ЗША, 2003г.
**00.50** «Вялікія таямніцы старажытнасці».

### 2 Беларусь

**09.05** Беларуская кухня.
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**11.25** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Камедыя «Дракула: Мёртвы і задаволены гэтым».
**14.20** Камедыя «Ідэальная пара».
**16.10** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**17.10** Хачу ў тэлевізар!
**17.15** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд дня.
**18.00** Ваша лато.
**18.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**18.50** Футбол. Аргентына - Іран.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Германія - Гана.
**23.50** Тэлебарометр.
**23.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Казакі.
**08.25** «Таямніца душы». Іканапіс Беларусі. Новае жыццё ікон.
**08.50** «АРТиШОК». Творчасць скульптара Канстанціна Селіханава.
**09.20** «Мой ласкавы і пяшчотны звер». Мастацкі фільм паводле аповесці А.П.Чэхава «Драма на паляванні».
**11.05** «Наперад у мінулае».
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.40** «Сімвалы эпохі». Казакі.
**11.55** «Узыходжанне». Мастацкі фільм паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў».
**13.45** «Наша спадчына». Пояс караля Стэфанія Баторыя.
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.05** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**14.30** «Калейдаскоп».
**14.40** «Сімвалы эпохі». Казакі.
**14.55** «Дрысвяты. Песня і лёс». Дакументальны фільм.
**15.30** «Лёс. Рэжысёр Сяргей Лазніца». Дакументальны фільм.
**15.55** «Скарбніца Віцебшчыны». Дом Шагала.
**16.20** «Размаўляем па-беларуску».
**16.30** «Лазер Алфёрава». Дак. фільм.
**16.50** «Калейдаскоп».
**17.00** «Сімвалы эпохі». Казакі.
**17.15** «У чэрвені 41-га». Мастацкі фільм па матывах аповесці Алега Смірнова «Чэрвень». 1-я - 4-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Сусветнае кіно. «Трайны крыж».
**23.25** «Нябачны фронт». Штрафбаты. Дакументальны фільм. Часткі 1-я - 4-я.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.30** «Сімвалы эпохі». Казакі.

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Мастацкі фільм «Крэўныя браты «.
**16.00** Сёння.
**16.15** «Выратавальнікі».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Цэнтральнае тэлебачанне.
**19.55** Новыя рускія сенсацыі.
**20.55** Ты не паверыш!
**21.55** Мастацкі фільм «Адзін дзень».
**23.40** Баявік «Атрад адмысловага прызначэння».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.20** Казкі для дзетак.
**08.55** «Сонечная дзіда», серыял: 5 серыя.
**09.20** Форум (ток-шоу): Адкуль бярэцца рэвалюцыя?
**10.15** Аўтастопам праз Еўропу: Амстэрдам.
**10.30** «Лонданцы», серыял: 2 серыя.
**11.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Як гадуецца нацыя?
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Андрусаўскае замірэнне 1667 года.
**11.45** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Прыгоды і паходы».
**12.20** «Сонечная дзіда», серыял: 5 серыя.
**12.45** «Дом ля праплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**13.35** «Вяртанне», драма, 2005 г., Польшча.
**15.20** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**15.55** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Алесь Аркуш.
**16.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Гісторыя нікчэмнасці».
**17.00** Хто ёсць кім?: Ігар Неўпакоеў.
**17.15** Без рэтушы: «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**17.30** Чаму дэмакратыя? «Таксі ў цэмру».
**18.25** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**18.55** Аўтаспынам па Беларусі: Шляхецкія маёнткі.
**19.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Грунвальдская бітва.
**19.30** «Пошук Мазэпы» (Пошук Мазепи), дак. фільм, 2013 г., Украіна.
**20.20** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «2 бубачкі», маст. фільм, 2009 г., Чэхія.
**22.50** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 3 серыя.
**23.35** «Глыбокая вада», серыял: 5 серыя.
**00.20** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта«Крама».
**00.55** Аб'ектыў.

TV

## 22 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «Двойчы ў адну раку» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы з Беларусі».
**14.25** Дыялогі пра цывілізацыю.
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.55** Ваенна-прыгодніцкі баявік «У жніўні 44-га…» (Беларусь).
**19.05** Драма «Спакуса» (Расія).
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Паўднёвая карэя - Алжыр.
**23.55** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Пакуль усе дома».
**10.10** Мастацкі фільм «Знак бяды».
**12.50** Гарады-героі.
**13.50** Вайна і міфы.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Вайна і міфы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Мастацкі фільм «У тумане».
**23.25** Мастацкі фільм «Зваротны бок паўночы».

### СТВ

**06.05** Фільм «22 чэрвеня, роўна а 4 гадзіне…».
**07.50** «Сусветны блокбастар»: Фільм «Вакол свету за 80 дзён».
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Сын палка «.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Пайсці і не вярнуцца».



**22.10** «Вялікія таямніцы часу».
**00.40** Фільм «Каханне».

### Беларусь 2

**07.20** Мультфільм «Казка пра залатога пеўнічка».
**07.50** Фільм «Русалачка».
**09.20** Заўтра - гэта мы!
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.25** Стыль-бюро.
**11.00** Аўтабатл.
**11.40** Ваенны фільм «У бой ідуць адны «старыя».
**13.25** Баявік «Снайпер 2».
**15.45** Тэлебарометр.
**17.20** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд дня.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Футбол. Бельгія - Расія.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.40** «Спортлато 5 з 36».
**21.45** КЕНО.
**21.55** Тэлебарометр.
**22.00** Музыка пакаленняў.
**23.40** Ваенны фільм «У бой ідуць адны «старыя».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «У чэрвені 41-га». Мастацкі фільм па матывах аповесці Алега Смірнова «Чэрвень». 1-я - 4-я серыі.
**11.40** «Нябачны фронт». Штрафбаты. Дакументальны фільм. Часткі 1-я - 4-я.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дакументальны фільм пра творчасць кінарэжысёра, народнага артыста Расіі.
**13.45** Л.-В.Бетховен. Сімфонія №9 рэ мінор, ар.125.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Камертон». Народная артыстка Расіі Святлана Кручкова.
**15.30** «Жывыя сведкі леднікоў». Дакументальны фільм пра рэдкія віды птушак беларускага Паазер'я.
**16.15** «Шляхамі Адама Міцкевіча». Родныя мясціны паэта ў Навагрудку.
**16.35** «Наперад у мінулае».
**17.00** Дзіцячы фільм. «Пра Віцю, пра Машу і марскую пяхоту».
**18.05** «Культпрасвет».
**18.35** Сусветнае кіно. «Трайны крыж».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Песні ваенных гадоў». Канцэрт.
**22.55** «Культпрасвет».
**23.20** В.Быкаў. «Апошні шанц». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
**00.50** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Вострасюжэтны серыял «Угро 5».
**16.00** Сёння.
**16.15** Вострасюжэтны серыял «Угро 5».
**19.00** Сёння.
**19.50** Вострасюжэтны серыял «Белы чалавек».
**21.45** Мастацкі фільм «Ваўкадаў».
**23.20** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 9 серыя.
**08.15** Зона«Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Хто ёсць кім?: Ігар Неўпакоеў.
**09.10** Беларусы ў Польшчы.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 3 серыя.
**10.40** Чаму дэмакратыя? «Таксі ў цемру».
**11.35** Аўтаспынам па Беларусі: Шляхецкія маёнткі.
**11.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Каму трэба імя па бацьку?.
**12.00** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**12.40** «Таямніца Сагалі», серыял: 9 серыя.
**13.05** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**14.00** «Пошук Мазэпы», дак. фільм, 2013 г., Украіна.
**14.50** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**15.30** МакраФон: Канцэрт«Іх N.R.M – іх Мроя».
**16.30** «2 бубачкі», маст. фільм, 2009 г., Чэхія.
**18.05** «Лінія Сталіна. Гонар ці ганьба?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**18.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы ўнучок».
**18.55** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.10** «Дэмакратыя. Год нулявы», дак. фільм, 2012 г., Бельгія.
**20.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Казімір Ваза.
**20.15** «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Мілаш Форман: Тое, што цябе не забівае...», дак. фільм. 2009 г., Чэхія.
**22.55** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 3 серыя.
**23.55** «Глыбокая вада», серыял: 6 серыя.
**00.40** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

Новы час
novychas.info
Для тых, хто прымае рашэнні!

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Хто перамог у Нармандыі?

Алег НОВІКАЎ

**Тыдзень самітаў і міждзяржаўных сустрэч на вышэйшым узроўні прысвечаных юбілею дэсанта саюзнікаў у Нармандыі 1944 годзе, ператварыўся ў нагоду для новай хвалі халоднай вайны.**



Спачатку ў СССР, а пасля і Расіі высадку саюзнікаў у Нармандыі ўлетку 1944 года трактавалі як падзею другога гатунку ў гісторыі супрацьстаяння з фашызмам. Лічылася, што адкрыццё другога фронту мала паўплывала на вынік вайны. Аднак з-за канфлікту з Украінай D-day (так называюць дзень высадкі дэсанта) нечакана набыў у расійскіх СМІ рысы глабальнай гістарычнай падзеі, святкаваць якую, маўляў, Захад маральнага права не мае, бо заходнія лідары, якія падтрымалі «фашыстаў» ва Украіне, здрадзілі памяці герояў дэсанту.

У выніку сама юбілейная дата і дэталі той аперацыі для большасці назіральнікаў засталася за кадрам. Для Пуціна саміт, прысвечаны ўгодкам высадкі ў Нармандыі, стаў нагодай для першай пасля пачатку крызісу на Украіне паездкай на Захад, і чакалася, што яго візіт дасць адказ на блок пытанняў, звязаных з будучыняй канфлікту.

Фармат сустрэчы, пры якім не было фармальнай павесткі дня і фінальных агульных рэзалюцый, прымусіў палітыкаў хуценька распрацаваць нейкі інструментарый вядзення палітычнай барацьбы. У ход пайшлі дэманстратыўныя жэсты накшталт абмену поглядамі або нежадання ціснуць візаві руку. Нядзіўна, што некаторыя выданні для аналізу вынікаў саміту запрасілі ў рэдакцыі нават спецыялістаў па фізіянамістыцы.

Так, грымаса Пуціна падчас сустрэчы з Парашэнкам у адным з амерыканскіх выданняў была ахарактарызаваная такім чынам: «Зірніце на позу і выраз твару Пуціна! У наяўнасці адразу тры прыкметы адчужэння: прыплюшчаныя вочы, падціснутыя вусны і злучаныя канцы вялікіх пальцаў». Усім сваім выглядам Пуцін паказвае, што не разлічвае пачуць нічога цікавага для сябе, і нецярпліва чакае, калі суразмоўца адвяжацца».

Такога кшталту методыка аналізу і кулуарны характар кансультацый дазваляе аналітыкам рабіць самыя полюсныя высновы наконт вынікаў сустрэчы ў Нармандыі. Як і варта было чакаць, расійская аналітыка і ватнікаўская блогасфера запісала саміт у залік Пуціну. Практычна ўсе СМІ лічаць, што байкот Пуціна праваліўся. Адзначаецца, што нават Барак Абама, чыя рыторыка была найбольш ваяўнічая, пагадзіўся на тэт-а-тэт з Пуціным.

У расійскай прэсе таксама ахвотна смакуюць апартунізм еўрапейцаў. Еўропа, на думку аналітыкаў, дала зразумець, што далей вербальнай крытыкі агрэсіўнай палітыкі Крамля ісці не гатовая. У доказ прыводзіцца гісторыя з двума авіяносцамі класу «Містраль», якія Масква замовіла ў французаў. Францыя, як было падкрэслена ў Нармандыі, мае намер выканаць сваю частку пагаднення і перадаць Расіі ва ўстаноўлены тэрмін два авіяносцы. У гэтым Парыж падтрымаў і Берлін. На думку Ангелы Меркель, пастаўка «Містраляў» можа быць замарожана толькі ў выпадку ўвядзення пашыраных, сектаральных санкцый супраць Расіі.

Вывады на базе такой падачы інфармацыі робяцца самыя ваяўнічыя. Пасля Нармандыі ў чырвона-карычневым сектары рунэта пануе думка, што вайна за Данбас фактычна выйграная. «Пуцін даў Парашэнку шанец скончыць усе мірным спосабам... і тады станеш для Расіі «рукопожатным». Не паўтарай лёсу Саакашвілі. Вось толькі, мяркуючы па сённяшняй гаворцы (у Нармандыі), ён гэты шанц не выкарыстаў. Зрэшты, пра што гэта я, ён і не мог без дазволу заакіянскіх куратараў. Ну што ж, тады і размова пачнецца па-іншаму», — піша адзін з расійскіх блогераў. Расійскія нацыяналістычныя выданні пішуць пра слабасць Захаду і заклікаюць праваднікоў сепаратысцкіх рэспублік Данбасу ўвогуле адмовіцца ад тэзісу федэралізацыі і дабівацца ўваходжання рэгіёну ў склад РФ.

У сваю чаргу, кіеўскія эксперты лічаць сустрэчу ў Нармандыі калі не перамогай, то поспехам украінскай дыпламатыі. Перш за ўсё, адзначаецца сам факт сустрэчы расійскага і ўкраінскага гарантаў, што фактычна зняло пытанне легітымнасці новай украінскай улады (адзін з любімых канькоў маскоўскай прапаганды). Таксама ў Кіеве задаволеныя тым, што Захад па выніках саміту яшчэ больш пераканаўся ў тым, што пуцінская Расія не здольная быць геапалітычным і стратэгічным партнёрам.

Нямецкая выданне «Deutsche Welle» адзначае дыпламатычны геній Парашэнкі: «Парашэнка заручыўся ўсеабдымнай падтрымкай Захаду. Ён мае намер весці сваю краіну еўрапейскім курсам, але пры гэтым імкнецца і да добрых стасункаў з Расіяй».

Дарэчы, заходняя прэса таксама падзялілася ў ацэнках сустрэчы ў Нармандыі. Праўда, тут падзел праходзіць па пытанні, што спрыяла прыходу міру ва Украіну — саміт або нешта іншае? На гэты конт хапае скептычных высноў. «Расійскі лідар трошкі зменшыў полымя на ўсходзе Украіны, але зрабіў гэта так, каб ніхто ў Кіеве, Берліне і Вашынгтоне не забываў, хто трымае руку на газавым вентылі. Іншую ж руку Пуцін у Нармандыі працягнуў Парашэнку, паколькі ведае, як на Захадзе радуюцца маленькім жэстам, калі яны могуць быць расцэненыя ў якасці сігналаў да ўрэгулявання канфліктаў», — піша нямецкая газета «Frankfurter Allgemeine Zeitung». А вось брытанская «The Guardian», наадварот, лічыць, што сустрэча ў Нармандыі давяла: мірны працэс магчымы.

На фоне ў большасці мінорных ацэнак сустрэчы ў Нармандыі тым больш незвычайнай стала навіна пра фармаванне 9 чэрвеня на базе АБСЕ кантактнай групы, якая намагаецца прымірыць ваяўнічыя бакі. Называюцца нават тэрміны прыпынення вайсковых дзеянняў. У любым выпадку, можна казаць, што з'явіўся ўнікальны шанс як мінімум дабіцца мінімалізацыі шкоды ад цяперашняга супрацьстаяння, а таксама стварэнне такой сітуацыі, калі рызыка далейшага абвастрэння будзе імкнуцца да нуля. Праўда, гэта максімум, чаго сёння можна дабіцца. Ніхто не мае дарожнай карты выхаду з грамадзянскай вайны ва Украіне.

Гэта робіць ініцыятывы кантактнай групы вельмі далікатнымі. Іх правал можа каштаваць вельмі дорага. Тым больш, што Захад даў Расіі час да пачатку ліпеня. Калі да гэтага часу Масква не прыпыніць падтрымку сепаратыстаў, могуць уступіць у сілу т.зв. «сектаральныя акцыі». У такім выпадку не зразумела, як бакам канфлікту прыйдзецца дамаўляцца. Як канстатуе прэса, наступнага мерапрыемства такога маштабу, як саміт у Нармандыі, прыйдзецца чакаць яшчэ вельмі доўга, а афіцыйных візітаў у цяперашняй абстаноўцы арганізоўваць ніхто не хоча.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускія аналітыкі звязваюць фактычнае вяртанне краіны на міжнародны ўзровень з тым, што Еўропе сёння на фоне актыўнасці Расіі значна больш зразумелая «балотная» і ціхая Беларусь, прадказальная і затарможаная. І сёння, лічаць яны, на фоне ўкраінскіх падзей у Лукашэнкі ёсць рэальны шанец палепшыць адносіны і з ЗША, і з ЕС. Адным словам, «апошняму дыктатару» нават не трэба было праводзіць лібералізацыю, усё зрабіла геапалітычная кан'юнктура. І сваім шанцам Лукашэнка не прамінуў скарыстацца. Зараз і ён, як большасць лідараў постсавецкай прасторы, спрабуе сесці на два крэслы, падлашчваючыся да Масквы і да Захаду. Таму ён і дазволіў сабе некаторыя адважныя выказванні тыпу «Украіна павінна быць адзінай цэласнай дзяржавай», неабходнасці змагацца з тэрарыстамі на паўднёвым усходзе Украіны. І яшчэ новаму прэзідэнту Украіны даў параду — не губляць Крым.

**«Блокнот» (Расія)**

Для Украіны вельмі важна ўмацаванне сувязяў з Польшчай, што дасць новыя магчымасці краінам ужо ў сярэднетэрміновай перспектыве, але яшчэ больш важны доўгатэрміновы альянс з Мінскам, які будзе даспяваць да такога фармату па меры таго, як будуць пагаршацца справы ў Расіі. Прыезд Аляксандра Лукашэнкі на інаўгурацыю Пятра Парашэнкі з'яўляецца знакавым, паколькі дэманструе, што кіраўнік Беларусі гуляе шырока і імкнецца захаваць максімальную прастору для манеўру, нават разыгрываючы еўразійскую партыю.

**«Хвиля» (Украіна)**

Што да Лукашэнкі, то зразумела, што сваёй прысутнасцю Бацька жадаў скарыстацца, каб прадэманстраваць Еўропе, што Беларусь — не Расія. Нам усім Лукашэнка ўяўляецца байцом і патрыётам рускага свету. Яго антыамерыканізм і сяброўства з памерлым Чавесам стварыла ў шмат каго ілюзію, што ён нібыта з намі. У рускім акопе. Таму ў шмат каго прысутнасць Лукашэнкі ў гэтыя дні ў Кіеве выклікала, мякка кажучы, здзіўленне. Нават пасыпаліся абвінавачванні ў здрадзе. Але асабіста я не здзіўлены. Проста аўтар гэтых радкоў, бышы ў 2006 годзе ў складзе дэлегацыі ўкраінскіх журналістаў, сустракаўся з беларускім прэзідэнтам у будынку Нацыянальнай бібліятэкі. Памятаю, як мяне ўразілі яго хвалебныя оды на адрас Ющанкі. Яшчэ больш уразіла жаданне Аляксандра Рыгоравіча аб'яднацца з «памаранчавай» Украінай, каб разам у якасці краін, праз якія праходзяць энергетычныя магістралі ў Еўропу, ціснуць на Расію. Кажучы па-простаму, шантажаваць Расію. Калі Лукашэнка збіраўся аб'яднацца з Украінай часоў Ющанкі, дык што яму замінае гэта зрабіць з Украінай Парашэнкі?

**«Известия» (Расія)**

«Крымска-данбаскія» поспехі Уладзіміра Пуціна, дасягнутыя ў тым ліку за кошт сілавога рэсурсу, па ўсёй відавочнасці, не толькі не дапамагаюць рэінтэграцыі постсавецкай прасторы, але і выклікаюць сур'ёзныя праблемы для Расіі. Кошт інтэграцыйных праектаў з-за «палітычных асцярог» партнёраў Крамля прыкметна павялічваецца. Разумеючы значнасць «моманту» і вастрыню сітуацыі, прадстаўнікі вызначаных да «аб'яднання» дзяржаў спрабуюць дамагчыся ад Расіі максімальных саступак і прэферэнцый. Найболей красамоўна гэта робіць кіраўніцтва Беларусі.

**«News Balt» (Латвія)**

Значна больш верагодным уяўляецца тое, што лёс Лукашэнкі вырашаць звонку два вялікіх цяжкавагавіка, паміж якімі ён увесь час танчыць: Масква і Захад. Калі Захад здолее дапамагчы Украіне падняцца на ногі, гэта можа паказаць жыхарам Беларусі, што магчымае жыццё і пасля Лукашэнкі — іншае жыццё ў іншай арбіце. Калі Масква стоміцца ад балаганнага клоуна ва ўласных межах, які кусае руку, якая яго корміць, то яна можа хутка арганізаваць яму вясёлае жыццё. А пакуль Беларусь рыхтуецца ўрачыста адзначыць чарговы год пад кіраваннем Лукашэнкі.

**«The Guardian» (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Мумія супраць «Газпрому»

Грамадскасць Алтая знайшла вінаватага ў тым, што край стаў ахвярай самай вялікай за апошняе стагоддзе паводкі. На думку групы інтэлігенцыі, прычына — здзек з парэштак прынцэсы Ак-Кадын. Паводле міфаў, Ак-Кадын была адной са жрыц, якая для абароны Зямлі добраахвотна ахвяравала жыццём. Алтайская прынцэса ўважаецца захавальніцай міру. Доўгі час лічылася, што гэта казка, пакуль у 1993 годзе ў паўразбураным кургане на плато Укок не знайшлі мумію багатай жанчыны. З-за наяўнасці на яе целе вялікай колькасці сакральных татуіровак абарыгены вырашылі, што гэта мумія той самай Ак-Кадын. Тым больш, што пасля таго, як курган раскапалі, у рэгіёне, нібыта, пачалося абы-што. Напрыклад, вельмі часта адбываюцца землятрусы. Нарэшце, адзін з мясцовых археолагаў, які капаў курган на Укоку, паведаміў, што яму ў сне прыйшла Ак-Кадын і патрабавала вярнуць яе мумію на месца пад пагрозай прыроднай катастрофы. Паколькі археолага ніхто не паслухаў, тая катастрофа ў выглядзе паводкі і пачалася. Цікава, што мясцовая ўлада не супраць перапахаваць мумію, якая знаходзіцца ў музеі Навасібірску, аднак ёсць адна праблема. Праз тое самае плато Укок кампанія «Газпром» збіраецца цягнуць газаправод у Кітай, а калі вядзецца пра палітыку і грошы, то наўрад ці нехта будзе ўсур'ёз успрымаць мясцовыя легенды.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЛІТВА. У лепшым гатэлі Вільні жывуць пчолы



У адным з самых раскошных гатэляў Вільні «Kempinski Hotel Cathedral Square», які знаходзіцца насупраць Кафедральнай плошчы, пасяліліся незвычайныя пастаяльцы. На даху будынка ўсталявалі вулей з больш за 30 000 пчоламі. У рамках ажыццяўлення праекта на дапамогу заклікалі прафесійнага пчаляра Альгіса Мікалопаса, які займаецца пчалярствам больш за 24 гады і прыглядае больш чым за 160 вуллямі. Па словах пчаляра, пчолам некалькі дзён спатрэбілася на тое, каб асвоіцца ў новых умовах, аднак пасля гэтага яны ўзяліся за справу. Вулей быў названы Kempinski Bee Suite. «Я буду рады, калі да канца лета ў нас будзе 15–25 кілаграмаў мёду, калі ўлічыць, што гэта першы год, паглядзім, як пчолы справяцца з задачай збіраць нектар у цэнтры горада», — сказаў Мікалопас. Ён дадаў, што гасцям гатэлю пчолы не павінны дастаўляць ніякіх клопатаў.

Сабраны пчоламі мёд гатэль будзе падаваць на стол сваім пастаяльцам, дарыць гасцям, а бармэны Le Salon Bar and Lounge будуць выкарыстоўваць яго для прыгатавання кактэйляў. Гендырэктар «Kempinski Hotel Cathedral Square» Кес Хойвелінг сказаў, што ідэя размяшчэння вулля на даху гасцініцы з'явілася падчас ажыццяўлення праекта «Сняданак у горадзе» (Best Breakfast in Town), мэта якога — унесці ў меню сняданкаў як мага больш мясцовых прадуктаў.

### БРАЗІЛІЯ. Аргенціна адпомсціць за Фальклeнды

Адной з ускосных, аднак прынцыповых задач аргенцінскай зборнай на чэмпіянаце свету ў Бразіліі стане перамога над зборнай Англіі. Пра гэта пішуць брытанскія газеты, аналізуючы шумную антыбрытанскую кампанію, якая пачалася ў Аргенціне напярэдадні Кубка свету. Перамога над Англіяй павінна давесці, што Аргенціна ніколі не пагодзіцца з брытанскай акупацыяй Фалклендскага (Мальвінскага) архіпелагу — пішуць мясцовыя СМІ. Так, футбалісты зборнай выйшлі на апошні таварыскі матч, трымаючы ў руках транспаранты «Мальвіны — аргенцінская зямля». У сувязі з гэтым брытанскія палітыкі нават заклікаюць Федэрацыю футбола Англіі патрабаваць зняцця Аргенціны з турніру за прапаганду агрэсіі і агрэсіўнага нацыяналізму, што забаронена адпаведнымі пунктамі статуту арганізацыі. Між тым, некаторыя назіральнікі лічаць, што ніякага агрэсіўнага нацыяналізму ва ўчынках аргенцінскіх спартсменаў няма. Папросту тэма Фальклендаў мае мабілізуючы эфект у аргенцінскім грамадстве. Менавіта жаданне адпомсціць Англіі за прайграную вайну натхніла аргенцінцаў пад кіраўніцтвам Марадоны на перамогу на Чэмпіянаце свету 1986 года. Цяпер аргенцінскія трэнеры вырашылі зноў выкарыстаць стары прыём.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Расія без футбола або без Пуціна

*Алег НОВІКАЎ*

**Напярэдадні чэмпіянату свету ў Бразіліі ў свеце сфармаваўся шырокі рух за тое, каб пазбавіць Расію права прымаць наступны Мундыяль у 2018 годзе.**



**Віцэ-прэм'ер Крыму марыць пра тое, што Сімферопаль можа стаць адным з гарадоў, якія будуць прымаць чэмпіянат свету па футболе ў 2018 годзе**

Рашэнне аб тым, што Расія стане гаспадаром Кубка свету, было прынятае 2 снежня 2010 года. Чэмпіянат плануюць правесці ў 11 расійскіх гарадах з 8 чэрвеня па 8 ліпеня 2018 года.

Першым вырашыў парушыць гэты план, яшчэ напярэдадні сумнавядомага рэферэндуму ў Крыме, былы спартовы журналіст, а цяпер эпатажны дэпутат ад партыі «Свабода» Ігар Мірашнічэнка. Ён заявіў: «Калі расійскія вайскоўцы не пакінуць тэрыторыю нашай дзяржавы, украінская футбольная грамадскасць выступіць з ініцыятывай забраць у расіян чэмпіянат свету па футболе 2018 года. Не могуць спаборніцтвы праводзіцца ў краіне, якая нападае на сваіх суседзяў. Я ўявіць не магу, як будуць пачувацца на тэрыторыі Расіі нашы футбалісты, калі яны патрапяць на гэты чэмпіянат. Думаю, што шматлікія краіны падтрымаюць Украіну ў гэтым пытанні».

2 сакавіка, як паведамілі ананімныя крыніцы ўкраінскаму інфармацыйнаму агенцтву УНІАН, Украіна праз свае дыпламатычныя каналы папрасіла кіраўніцтва ЕС заклікаць пазбавіць Расію права на ЧС–2018. Актывізавалася ўкраінскае лобі ў амерыканскім парламенце. Група сенатараў-рэспубліканцаў даслала ліст Ёзэфу Блатэру (старшыні FIFA) з аналагічнай просьбай. Сенатары лічаць, што Расія парушае міжнародныя правы і з непавагай ставіцца да правіл FIFA.

Адначасова па ўсім свеце пачалі ўзнікаць грамадзянскія ініцыятывы. Некаторыя з іх дзейнічаюць даволі радыкальна.Так, грамадская арганізацыя «United with Ukraine» паведаміла, што будзе заклікаць людзей байкатаваць прадукты кампаній-фундатараў ЧС–2018, пакуль тыя не акажуць уплыў на FIFA з мэтай перанесці турнір.

Былы галоўны трэнер «Металіста» і зборнай Украіны Мірон Маркевіч таксама падтрымаў ідэю забраць у Расіі права на правядзенне ЧС–2018 «з-за агрэсіўнай знешняй палітыкі».

Пакуль афіцыйныя колы FIFA рэзка асуджаюць ідэю карэкціроўкі месца правядзення чэмпіянату. Спадар Блатэр афіцыйна адказаў згаданым вышэй сенатарам, заявіўшы: «Мы не бачым праблем па частцы арганізацыі чэмпіянату свету 2018 года. У нас няма прэтэнзій да Расіі, і пытанне яе ўдзелу ў ЧС–2014 таксама не выклікае сумневаў. Усё застаецца, як і раней».

Прыхільнікі пераносу чэмпіянату прапануюць цэлую падборку фактараў, якія, на іх думку, могуць прымусіць адміністратараў FIFA па-іншаму паглядзець на перспектывы правядзення ЧС–2018 ў Расіі.

Па-першае, у адрозненні ад гісторыі хакея, у футболе былі прэцэдэнты, калі краіны каралі за палітыку. У 1992 годзе Югаславія была пакараная за ваенныя дзеянні за мяжой (Боснія) адлучэннем ад чэмпіянату Еўропы 1992 года і чэмпіянату свету 1994-га. Лічыцца, што гэтая мера трошкі ацвярозіла югаслаўскіх палітыкаў.

Важна адзначыць, што на сур'ёзныя санкцыі супраць Расіі Еўропа ісці яўна не жадае з эканамічных рэзонаў. У такім выпадку футбол можа стаць адзіным сродкам, які дазваляе ўсур'ёз ціснуць на Маскву без пагрозы сваім эканомікам. Так, вядомы расійскі спартовы юрыст Юры Зайцаў лічыць, што «югаслаўскі варыянт» цалкам рэальны. Першым крокам, на яго думку, можа стаць часовае прыпыненне ўдзелу расійскай зборнай у чэмпіянатах пад эгідай FIFA.

Па-другое, не так даўно выбухнуў скандал наконт карупцыі ў структурах FIFA, які тычыцца працэдуры выбару Катара ў якасці арганізатара ЧС–2022. Аказалася, што функцыянеры з ведамства Блатэра атрымлівалі хабар. Цяпер у Федэрацыі створана спецыяльная следчая камісія.

На думку брытанскай газеты «The Telerpaph», следства не абмяжуецца выпадкам з Катарам. Абавязкова будзе ўзгаданы працэс абрання гаспадара Мундыялю–2018. Для брытанскіх журналістаў давесці існаванне карупцыйнай здзелкі паміж Пуціным і Блатэрам — не проста ідэя-фікс або прафесійны абавязак.

Справа ў тым, што менавіта Англія лічылася фаварытам адбору на гаспадара ЧС–2018. Аднак у фінале на цырымоніі ў Цюрыху, нечакана для ўсіх, брытанцы сышлі з дыстанцыі, прычым пасля першага тура галасавання. Гэта стала сапраўдны накаўтам для англічан. Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран адразу выказаў меркаванне, што краіна-гаспадыня ЧМ–2018 была абрана загадзя, і што службоўцы FIFA, якія абяцалі падтрымку ангельскай заяўцы, у выніку прагаласавалі за Расію.

«Я буду асцярожны ў сваіх выказваннях. 24 гадзіны ў суткі я як вар'ят працаваў над нашым з Дэвідам Бэкхэмам і прынцам Уільямам праектам. Мне здавалася, што мы дамагліся прагрэсу. І мне здаецца, што вынікі (галасавання)... Мне трэба выбіраць словы... Скажу так: выбар быў зроблены ўжо загадзя. Магу толькі сказаць, што было нямала людзей, якія абяцалі прагаласаваць за Англію. А ў выніку, як апынулася, мы атрымалі ўсяго адзін голас», — сказаў тады Кэмеран.

З таго самага часу ў Лондане з'явілася мара перахапіць чэмпіянат свету ў Расіі. Цяпер, сапраўды, такі сцэнар не выключаны. Калі Расія сутыкнецца з тымі ж праблемамі, што і Катар, то чэмпіянат можа прайсці на радзіме гульні.

Трэці фактар тычыцца феномену цяперашняга чэмпіянату ў Бразіліі. Спартовае мерапрыемства праходзіць на фоне буйных грамадзянскіх пратэстаў супраць турніру. Шматлікія бразільцы лічаць, што закладнікам ідэі правядзення турніру сталі сацыяльныя праграмы. Не выключаюць, што па ходу чэмпіянату могуць успыхнуць масавыя бунты. Калі яны набудуць маштаб, сама мадэль чэмпіянатаў свету можа змяніцца. Як следства, фармат падрыхтоўкі да чэмпіянату могуць перагледзіць у бок пашырэння ўдзелу ў ім грамадскасці. Узнікае пытанне — ці ў стане аўтарытарная Расія забяспечыць празрыстасць і грамадскі кантроль?

Пакуль самі расійскія чыноўнікі не ўспрымаюць агучаныя вышэй заклікі як пагрозу. Больш таго, віцэ-прэм'ер Крыму ўвогуле думае, што Сімферопаль можа стаць адным з гарадоў, якія будуць прымаць ЧС–2018. Што тычыцца простай публікі, то, ахопленая патрыятычнымі настроямі, яна перакананая, што вялікі цар Пуцін проста не дапусціць, каб Расія не прымала чэмпіянат у 2018-м. У якасці апошняга аргумента фігуруе стары тэзіс «адключым газ».

Дарэчы, у тое, што Расія ўсё ж будзе гаспадаром Кубку свету праз чатыры гады, вераць і частка дэмакратаў. Аднак, на іх думку, турнір пройдзе ў Расіі з-за таго, што да гэтага часу адбудуцца вялікія палітычныя трансфармацыі. Апазіцыя ўзгадвае, як гнеўна рэагавала расійская грамадства на эканамічныя злачынствы і карупцыйныя скандалы, звязаныя з падрыхтоўкай Алімпіяды ў Сочы. Наўрад ці падрыхтоўка да ЧС абыдзецца без чарговых бюджэтных распілаў. Як мяркуюць лібералы, адзін з пратэстаў, выкліканых карупцыйнымі аферамі вакол ЧС, можа запусціць ланцужок падзей, у выніку якіх Расія будзе прымаць ЧС–2018 без Пуціна.

# Містыка інаўгурацыі Парашэнкі

Алег НОВІКАЎ

**Самым рэзанасным фрагментам інагурацыі Парашэнкі стала сцэна, калі салдат ганаровай варты ўпаў перад будучым гарантам. Шмат хто з украінцаў лічыць, што гэта прыкмета. А вось наконт таго, кепская яна або добрая, агульнай згоды няма.**



Містыцызм характэрны для ўкраінскай масавай культуры. Дастаткова ўзгадаць творы Гогаля. Навіна пра тое, што падчас інагурацыі адзін з салдатаў ганаровай варты ўпаў, адразу стала прадметам гарачых дыскусій і прагнозаў. Гуляючы па Кіеву 7 чэрвеня, мне неаднаразова давялося чуць абрыўкі размоў накшталт: «А я вам кажу, што гэта кепскі знак — у Парашэнкі кепская энергетыка».

Нагадаем, што салдат ганаровай прэзідэнцкай варты выпусціў з рук вінтоўку ў той час, калі нованбраны прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка праходзіў па чырвонай дарожцы ў Вярхоўную Раду Украіны. Было зразумела, што салдату стала дрэнна. Пасля таго, як Парашэнка прайшоў у дзверы, салдата забраў афіцэр.

Напэўна, інтарэс да інцыдэнту быў бы не такі вялікі, калі б не падобны выпадак з папярэднікам Парашэнкі. Калі Віктар Фёдаравіч Януковіч у 2010 годзе ішоў прымаць прысягу прэзідэнта, перад ім нечакана зачыніліся дзверы. Гэтая сцэна ў народзе адразу была пракаментаваная як знак таго, што добрам прэзідэнцтва Януковіча не скончыцца.

Акрамя таго, сам Майдан вельмі звязаны з народнай архаічнай культурай, што праяўлялася ў калектыўных малітвах, песнях, звароту да сярэднявечнай казацкай традыцыі, ідэі месіянства ўкраінскага народу. У ходзе амаль трохмесячнай акцыі на Майдане ўзніклі свае міфы.

Так, ветэраны стаяння ў цэнтры Кіева распавядаюць, што нейкая пазазямная сіла змяніла накірунак ветру 23 лютага, калі Беркут намагаўся зачысціць Майдан. Абаронцы ў адказ на атаку беркутаўцаў пачалі паліць шыны, і тут адбыўся цуд — вецер змяніў напрамак і пачаў дзьмуць у бок спецназаўцаў. Атака прыпынілася. Гэта па сутнасці выратавала апазіцыйны лагер. Мода на ірацыяналізм пасля перамогі рэвалюцыі стала характэрнай для новых афіцыйных СМІ.

Адсюль і такі вялізарны інтарэс да інцыдэнту з тым салдатам. Рацыянальныя тлумачэнні пра тое, што мы маем справу са звычайным сонечным ударам (тэмпература 7 чэрвеня была пад 30 градусаў) не задавальняюць украінцаў. Публіка дружна шукае ў падзеі нейкую метафізіку.

Асабліва актыўныя праціўнікі новай улады, сярод якіх хапае аматараў ірацыянальных канцэпцый. У асяроддзі антымайданаўцаў існуе нават фракцыя блогераў, якія лічаць, што рэвалюцыя на Майдане была прадказаная Настрадамусам. Адэпты гэтай тэорыі ахвотна цытуюць прадказальніка: «Падтрыманы натоўп паднімецца, стане пераследаваць і выганіць прыхільнікаў заканадаўства, і будзе царства паслабленае з Усходу. І Бог наш Стваральнік выпусціў сатану з вязніцы пякельнай, каб даць нараджэнне вялікаму сабаку».

Аднак і без Настрадамуса на антымайданаўскіх сайтах шмат арыгінальных тлумачэнняў. Напрыклад: «Зброя звалілася не на зямлю, а на ярка-чырвоную, колеры крыві, дывановую дарожку. Гэта ўдвая дрэнная прымета. Калі Порах не спыніць кровапраліцце, то яму будзе кепска» (блогер Маклай).

Акрамя таго, ахвотна факусуецца ўвага на нейкіх асабістых рысах новага прэзідэнта, які, быццам, праявіліся падчас інцыдэнту. «Мог бы і прытрымаць салдаціка. Карона б не звалілася і не растаў бы. Гэта паказчык таго, што яму п..фіг народ і войска», — адзначае адзін з блогераў.

Як і трэба было чакаць, здарэнне падчас інаўгурацыі адразу знайшло сваю інтэрпрэтацыю ў расійскіх СМІ. Шматлікія расійскія выданні палічылі гэта адназначна кепскай прыкметай. Пазней у СМІ Расіі пайшла гуляць чутка пра тое, што дзесяць жаўнераў, якія стаялі ў ганаровай варце, былі адпраўленыя па асабістым загадзе Парашэнкі на ўсходні фронт. Такой, быццам, была помста абранага гаранта за пракол падчас мерапрыемстваў 7 чэрвеня. На самай справе, Парашэнка пасля інаўгурацыі падышоў да салдата і спытаў, ці ўсё ў яго добра.

Лаяльныя на адрас Парашэнкі СМІ адразу прапанавалі сваю містычную трактоўку, паводле якой падзенне вінтоўкі, а пасля жаўнера, сведчыць пра міралюбівыя намеры 5-га прэзідэнта Украіны. Праўда, шараговыя фанаты Майдану пабачылі тут абсалютна іншы знак. Так, блогер Арцем Валына піша: «Добры знак! Усе каларады са зброяй — упадуць!!!»

Некаторыя ў пошуках ісціны капаюць так глыбока, што проста нельга не здзіўляцца. «Сёння, калі ПП (Пётр Парашэнка) ішоў па чырвонай дарожцы, пасля яго праходу з боку левага яго пляча ў аднаго салдата з ганаровай варты валіцца з рук вінтоўка... Зараз разбяром гэты знак: з левага боку Дняпра ў нас знаходзіцца ўсход Украіны, і ўсе мы ведаем, адкуль ідзе ўзброеная небяспека для ўсіх нас. Калі б вінтоўка звалілася перад ПП, тое гэта быў бы знак пра тое, што яму давядзецца ўстаць перад вайной. Вінтоўка звалілася пасля яго ўваходжання на прыступкі і ззаду, і руляй не ў яго бок, што кажа пра тое, што не будзе стрэлу ў спіну. Значыць, народ будзе падтрымліваць прэзідэнта», — піша ў сетках нехта Маўчан.

А ўвечары 7 чэрвеня стала вядома, што ў Пятра Парашэнкі нарадзіўся ўнук. Відавочна, такое супадзенне можна разумець як выключна пазітыўны знак для новага гаранта. Давялося самому быць сведкам таго, як людзі ў цэнтры ўкраінскай сталіцы звоняць адзін аднаму і гучна віншуюць з папаўненнем у прэзідэнцкай сям'і. Відавочна, што ўкраінскае грамадства ўскладае вялізарную надзею на Пятра Парашэнку. Застаецца, каб гэтыя надзеі сапраўды рэалізаваліся.

Напрыканцы трэба агучыць яшчэ адну версію. Некаторыя сцвярджалі, што той салдат быў падкуплены для замаху на Парашэнку. Як вядома, у «Шакаладнага караля» хапае праціўнікаў, прычым таксама сярод калегаў па Майдану. Гэта версія адразу нарадзіла новы анекдот, над якім, думаецца, пасмяяліся як антымайданаўцы, так і майданаўцы: «Замову прыняў, бабло атрымаў, а замачыць не змог. Якая краіна, такія і кілеры».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Януш Корвін-Міке



Кангрэс польскіх правых, лідарам якога з'яўляецца Корвін-Міке, здолеў прыцягнуць да сябе ўвагу публікі, і нават атрымаў па выніках майскіх выбараў 4 мандаты ў Еўрапарламенце. Некаторыя лічылі, што пасля гэтага палітык пачне будаваць сабе больш сур'ёзны імідж, у тым ліку таму, што неўзабаве кампанія ў Сейм, дзе стаўкі значна большыя. Але практычна праз тыдзень пасля згаданых выбараў Корвін-Міке працягнуў шакіраваць аўдыторыю. Спачатку ён дэманстратыўна адмовіўся ўставаць падчас выканання гімну Еўрасаюзу ў ходзе ўрачыстай працэдуры ўручэння яму пасведчання дэпутата Еўрапарламента. Пасля наведаў выбарчую акругу ў Сілезіі, адкуль быў абраны ў Брусэль, каб выступіць з праектам федэралізацыі Польшчы. Праўда, палітык лічыць, што аўтаномію павінны мець тэрыторыі, а не зоны, дзе дамінуе этнічная меншасць. Першы рэгіён, які павінен атрымаць аўтаномію, паводле Януша Корвіна-Міке, Сілезія (нагадаем, што да вайны край сапраўды меў статус аўтаноміі). Некаторыя кажуць, што гэта апошняя клоунскія выбрыкі Корвіна-Міке. Ёсць версія, што сродкі на выбарчую кампанію ён атрымаў праз пасольства Расіі, паколькі цалкам падтрымаў анексію Крыму. Наўрад ці Масква захоча, каб яе лабістам у Брусэлі была асоба з рэнаме клоуна.

### Барак Абама



Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі нечакана для ўсіх аказаўся яшчэ і прыхільнікам шатландскай незалежнасці. Падчас нядаўняй сустрэчы Вялікай сямёркі амерыканскі гарант зрабіў заяву наконт маючага адбыцца ўвосень плебісцыту наконт выхаду Шатландыі са складу Аб'яднанага каралеўства. Змест заявы выклікаў шок на берагах Тэмзы — па сваёй сутнасці гэта вельмі добра закамуфляваная рэклама права шатландскага народу на сваю дзяржаўнасць. У прыватнасці, Абама паведаміў, што падзея (рэферэндум) адбываецца своечасова, ён (Абама) паважае вынікі галасавання, хаця Штаты зацікаўленыя ў тым, каб Вялікабрытанія — стратэгічны партнёр ЗША — заўсёды была моцнай і адзінай. На думку большасці назіральнікаў, прамова Абамы з'яўляецца шантажам Лондану, які збіраецца выйсці са складу ЕС або сабатаваць канструктыўную працу новаабранага парламента. Брытанскі сепаратызм, безумоўна, можа выклікаць хаос структур ЕС, што наўрад ці патрэбна Вашынгтону, які ўцягваецца ў супрацьстаянне з Расіяй ва Усходняй Еўропе.

### Рахат Аліеў



Былы зяць Нурсултана Назарбаева, які ў выніку канфлікту з прэзідэнтам збег за мяжу і стаў галоўным казахскім апазіцыянерам, быў арыштаваны ў Аўстрыі, дзе ён меў палітычны прытулак. Ёсць інфармацыя, што Рахат арыштаваны як падазраваны ў датычнасці да выкрадання людзей і да забойстваў. У гэтых злачынствах, дарэчы, яго таксама падазраюць на радзіме. Афіцыйная Астана неаднаразова патрабавала экстрадыцыі Аліева за забойства шэрагу бізнэсмэнаў, і нават аднаго з лідараў казахскай апазіцыі. Вена ў сваю чаргу ўпарта адмаўляла Казахстану, падазраючы, што ўлады проста маюць намер знішчыць дысідэнта. Паралельна аўстрыйскія следчыя вялі сваё расследаванне і, напэўна, знайшлі нейкія доказы, якія кампраметуюць Аліева. Хутчэй за ўсё, гэта і стала падставай для арышту Рахата. Праўда, пакуль не зразумела, ці выдадуць апазіцыянера Казахстану. У Рахата ўсё ж ёсць надзея. Гэта надзея — яго былая жонка Дарыга. Пасля таго, як яна афіцыйна разарвала з мужам адносіны, ёй дазволілі вярнуцца ў палітыку. У 2012 годзе яна нават была абраная дэпутатам парламенту. А ў мінулым месяцы ёй даверылі пасаду віцэ-спікера ніжняй палаты і кіраўніка фракцыі афіцыйнай партыі «Нур Атан». Хутчэй за ўсё, былая жонка паклапоціцца пра лёс бацькі сваіх дзяцей. Дарэчы, ходзяць чуткі, што Дарыда да апошняга часу тайна сустракалася з Рахатам Аліевым.

# Хатынь: жорсткае рэха гісторыі

## Ці былі ў Хатыні «бандэраўцы», або Хто насамрэч спаліў беларускую вёску?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Кожнаму беларусу са школьнай лавы вядомая горкая праўда Хатыні, вёсачкі ў Лагойскім раёне пад Мінскам: 22 сакавіка 1943 года яе разам з жыхарамі спалілі карнікі ў якасці помсты за забойства некалькіх сваіх вайскоўцаў. У агні альбо ад куляў загінула 149 яе жыхароў, вёска пасля не адбудоўвалася. На месцы трагедыі ў 1969 годзе паўстаў мемарыяльны комплекс, а сама Хатынь стала сімвалам нацыянальнага болю часоў вайны, як чэшская вёска Лідзіцэ альбо французская — Арадур.**




Запыты ў сеціве даюць пэўны зрэз грамадскай думкі

### Ах, Адэса, наша новая Хатынь…

Тым не менш, зараз усё часцей чуваць пра Хатынь у кантэксце сённяшніх падзей ва Украіне. Маўляў, Хатынь спалілі «бандэраўцы», а да ўлады ў Кіеве прыйшлі акурат нашчадкі Бандэры, дык аб чым з імі размаўляць?.. Падзеі 2 траўня ў Адэсе, калі некалькі дзясяткаў прарасійскіх актывістаў (грамадзянаў РФ і Прыднястроўя збольшага) загінула ў палаючым будынку, выклікала новыя асацыяцыі: Адэса — Хатынь, Правы Сектар — «бандэраўцы»...

Цікава, што такой думкі трымаецца і Лукашэнка, які неаднаразова праводзіў такую паралель у сваіх выступах: «Некоторые из политиков так называемых, которые сегодня у власти на Украине, называют себя «наследниками Бандеры», УНА—УНСО, УПА — «Украинской повстанческой армии», «Организации украинских националистов» ...Потом-то мы разобрались, что грязными делами, и не только в Хатыни, занимались представители вот этих «повстанцев»... Они сожгли немало людей наших — в том числе и Хатынь, на территории Белоруссии, и не только — наверное, и Украине хватило...»

Пры гэтым прэзідэнт падкрэсліў, што пасля ўкраінскіх падзеяў адмыслова прасіў даддзеныя пра ўкраінскіх нацыяналістаў, якія ўважліва вывучыў «чтобы не выглядеть каким-то абсолютно дилетантом и человеком, который поддался советской пропаганде в своё время». Савецкай ці не, але прапагандзе Аляксандр Рыгоравіч усё ж такі паддаўся.

### А што з Бандэрам?

Доўгі час лунала думка, што Хатынь спалілі немцы — бо час калі нефарматам лічылася ўзгадваць пра масавую супрацу савецкіх грамадзянаў з гітлераўскай Нямеччынай. Калі выявілася, што шыла ў мяху не схаваеш, загаварылі пра ўкраінскіх нацыяналістаў, а значыць, і пра Бандэру. Ці не першым пра гэта напісаў Алесь Адамовіч у сваіх гістарычных аповесцях (папулярны за часамі СССР жанр). У 1990 годзе пра трагедыю згадаў нейкі Рошчын, публікацыя якога пра Бандэру ды Хатынь з'явілася акурат пасля адкрыцця помніка правадыру ўкраінскіх нацыяналістаў у яго родным сяле Стары Угрынаў. Такая падача фактаў цалкам адпавядала лініі партыі...

Але дзе насамрэч быў Бандэра ў 1943 годзе? Лідар АУН быў арыштаваны немцамі ў Кракаве яшчэ 5 ліпеня 1941 года, пасля чаго змешчаны ў канцлагер Заксэнхаўзэн, дзе і перабываў да канца вайны. Тады ж былі праведзеныя арышты яшчэ шэрагу дзеячаў АУН, арганізацыя зноўку апынулася ў падполлі. Справа ў тым, што немцам не спадабалася абвяшчэнне ўкраінцамі Акту незалежнасці 30 чэрвеня 1941 года ў Львове: Гітлеру не была патрэбная самастойная Украіна, нават як саюзнік у барацьбе са Сталіным. Таму менавіта неўзабаве будзе створаная УПА — Украінская паўстанцкая армія, якая будзе весці барацьбу на два фронты: супраць немцаў і супраць саветаў (таксама як і польская Армія Краёва).

### Шухевіч і «салавейкі»

Падобна і з Раманам Шухевічам — будучым камандуючым УПА. У 1941 годзе ён камандаваў батальёнам «Nachtigall» (ням. «Салавейка»), які вызваляў Львоў ад Чырвонай Арміі, у надзеі абвясціць незалежнасць. І зноў жа, немцам не былі патрэбныя ўзброеныя адзінкі з незалежніцкімі задачамі, батальён быў расфармаваны. Ахвочыя, у тым ліку Шухевіч, змаглі далучыцца да 201-га батальёну ахоўнай паліцыі, які быў скіраваны ў Беларусь.

Шмат хто з прадстаўнікоў народаў, пазбаўленых незалежнасці, разглядаў Другую сусветную вайну як аналаг Першай сусветнай, бачачы ў ёй шанс здабыць для свайго народу волю праз супрацу з больш моцным хаўруснікам (як гэта зрабілі палякі цягам Першай сусветнай). Служба ў мундзірах ворага ўспрымалася як часовая з'ява, каб сабраць людзей, авалодаць зброяй, якую ў зручны момант можна будзе павярнуць на абарону сваіх інтарэсаў.

Усё аказалася не так проста: з немцамі ўкраінцы не ўжыліся. Напрыклад, ветэран 201-га батальёну Яўген Пабягушчы згадвае, што на тэрыторыі Беларусі Шухевіч паспрабаваў выцягнуць з лагеру для вайсковых палонных 45 украінцаў, каб яны далучыліся да яго фармавання. Немцы, аднак, забаранілі, бо папярэдне ягоны батальён... адмовіўся ўдзельнічаць у прымусовай канфіскацыі збожжа ў мясцовых беларусаў. З немцамі адбываліся пастаянныя канфлікты: жаўнеры ведалі, што іх родных вывозяць на працы ў Нямеччыну, лідары іх руху арыштаваныя, нават у шпіталі немцы ды ўкраінцы ляжалі асобна... За такую «новую Еўропу» ваяваць хацеў далёка не кожны.

На Каляды 1942 года прыйшла навіна аб расфармаванні батальёна, асабісты склад якога цягніком меў быць вывезены ў Львоў. Там афіцэраў арыштавалі, некаторым, у тым ліку Шухевічу, удалося збегчы, каб весці барацьбу ў падполлі. Такім чынам, у сакавіку 1943 года Шухевіч знаходзіўся ў бягах, а «Нахцігаля» і 201-га батальёнаў, складзеных з нацыяналістаў, на гэты момант проста не існавала.

### 118-ы батальён

У чэрвені 1942 года ў Кіеве быў сфармаваны 118-ы батальён ахоўнай паліцыі з ліку вайсковых палонных чырвонаармейцаў, якія трапілі ў Кіеўскі кацёл, у асноўным ураджэнцаў Усходняй Украіны. Батальёнам камандаваў немец Эрых Кёрнер, яго дублёрам быў этнічны паляк Канстанцін Смоўскі. Аперацыі, замест немаладога ўжо Кёрнера, праводзіў 27-гадовы Рыгор Васюра, начальнік штаба батальёна, былы старэйшы лейтэнант Чырвонай Арміі. Першай ротай, якая лічылася элітнай, камандавалі Васіль Мялешка, былы савецкі лейтэнант пяхоты, ды немец Ганс Фёльке, вядомы спартовец і прызёр алімпіяды ў Берліне ў 1936 годзе. З забойства партызанамі Фёльке і пачалася хатынская трагедыя...

Вышэйзгаданыя афіцэры, акрамя забітага Фёльке, па ўсіх сведчаннях, акурат і ёсць галоўнымі героямі альбо антыгероямі драмы. Заганялі вяскоўцаў у адрыну, падпальвалі, расстрэльвалі шарагоўцаў па перыметры...

«...Гэта была хеўра бандытаў, для якіх галоўнае — рабаваць і п'янстваваць, — распавядаў Васюра ўжо на судзе ў 1986 годзе, — вазьміце камузвода Мялешку — кадравы савецкі афіцэр і сапраўдны садыст, літаральна шалеў ад паху крыві. Кухар Мышак ірваўся на ўсе аперацыі, каб пазверстваваць і парабаваць, нічым не грэбавалі камандзір аддзялення Лакуста і пісар Філіпаў, перакладчык Луковіч (ад'ютант Васюры — аўт.) катаваў людзей





Нямецкі спартовец і карнік Ганс Фёльке на алімпіядзе 1936 года




Уладзімір Катрук



Оскар Дырлівангер



Рыгор Васюра

на допытах, гвалціў жанчын... Усе яны былі мярзотнікамі з мярзотнікаў. Я іх ненавідзеў!..» — такім чынам Васюра намаляваў як псіхалагічныя партрэты сваіх падначаленых, так і свой уласны.

Дарэчы, судзілі Васюру некалькі разоў. Першы раз за супрацу з немцамі ў 1952-м на 25 год, але ён выйшаў па амністыі ўжо ў 1955-м. Па вызваленні Васюра даслужыўся да намесніка дырэктара саўгаса на Кіеўшчыне, атрымліваў узнагароды і граматы за старанную працу. Больш за тое, карнік выдаваў сябе за... змагара з фашызмам і франтавіка — афіцэра сувязі. Кажуць, нават вучыў піянераў патрыятызму. Імя яго ўсплыло цягам працэсу Мялешкі ў 1974 годзе, самога Васюру асудзілі ў 1986-м за ўдзел у забойствах агульнай колькасцю больш за 300 чалавек і расстралялі ў 1987-м.

Факт удзелу былых савецкіх афіцэраў у вынішчэнні беларусаў, зразумела, не супадаў з лініяй партыі. Таму, напрыклад, на суд да Васюры ў 1986 годзе журналістам савецкіх выданняў (сярод якіх «Труд» і інш.) уваходзіць спачатку дазволілі, а пасля — забаранілі. Выхад артыкулаў прадстаўнікоў «Известий» ды БелТА, якія ў суд усё ж такі трапілі, доўга затрымлівалі ў рэдакцыях, а пасля ўсё ж такі скасавалі. Лічыцца, што руку да гэтага прыклалі непасрэдна першыя сакратары ЦК КПБ Слюнькоў і ЦК КПУ Шчарбіцкі.

## Нацыяналісты з «Букавінскага курэня»

Ці служылі ў 118-м батальёне менавіта ўкраінскія нацыяналісты, а не проста ўраджэнцы Украіны? Так, і яны паходзілі з Букавіны — краю, які быў адабраны ў Румыніі ў 1940 годзе паводле дамоўленасці Молатава-Рыбентропа і далучаны да савецкай Украіны. Многія байцы былі непасрэдна звязаныя з АУН — Арганізацыяй украінскіх нацыяналістаў. Тут, аднак, ёсць важны момант: «бандэраўцамі» яны сябе не лічылі...

Акурат у 1940 годзе ў АУН адбыўся раскол на АУН Сцяпана Бандэры і АУН Андрэя Мельніка. Арганізацыя Бандэры была больш колькаснай і лічылася больш радыкальнай. Частка Мельніка выступіла за больш шчыльную супрацу з немцамі, не губляючы надзеі стварыць дзяржаву накшталт Славакіі Ёзафа Ціса альбо Харватыі Антэ Павеліча, пад крылом немцаў. Напрыклад, дывізія СС «Галічына» — праект «мельнікаўцаў», а не «бандэраўцаў», якія знаходзіліся ў падполлі і пераследаваліся немцамі.

Паміж «бандэраўцамі» і «мельнікаўцамі» ішла канфрантацыя, адбываліся ўзброеныя сутычкі. Гэта пры тым, што апошніх таксама не мінуў махавік гітлераўскіх рэпрэсій: частка лідарскага складу ў 1942 годзе апынулася ў Бабіным Яры пад Кіевам... Карацей, сярод украінскіх нацыяналістаў ішла свая вайна ва ўсіх адценнях чырвонага колеру.

...Калі «Букавінскі курэнь» (альбо Букавінскі батальён) быў расфармаваны, частка яго жаўнераў і афіцэраў акурат трапілі ў 118-ы паліцэйскі батальён, які фармаваўся пад Кіевам увесну 1942 года. Батальён прыбыў у Мінск у лістападзе 1942-га, калі, згодна гісторыку Пэру Андэрсу Рудлінгу, якога цяжка падазраваць у сімпатыях да нацыяналістаў, «у батальёне не было дамінацыі ўкраінцаў, у яго склад уваходзілі многія рускія і беларусы».

На заканчэнне варта дадаць, што самым вядомым прадстаўніком «курэня», які засвяціўся ў хатынскіх падзеях, стаў Уладзімір Катрук. Ён зараз жыве ў Канадзе, гадуе пчол ды ахвяруе на ўкраінскую праваслаўную царкву. Адтуль яго неаднаразова спрабавалі дастаць ды судзіць арганізацыі, якія займаюцца пошукам «ваенных злачынцаў». Тым не менш, Канада не выдае Катрука і адказвае на запыты аб пазбаўленні грамадзянства адмоўна.

## Людзі ў чорным

«...На месцы, дзе быў забіты Фёльке ў Вялікай Губе, — згадваў на судах у 1980-х гадах былы жаўнер 118-га батальёну, — я заўважыў шмат людзей у чорных плашчах. Было таксама 6 ці 7 машын, некалькі матацыклаў. Пазней мне сказалі, што гэта былі эсэсаўцы з батальёна Дырлівангера...» «Апрача нашага батальёна ў Хатыні было каля 100 эсэсаўцаў, якія прыехалі з Лагойска...» — сведчыў на допытах 1985 і 1986 гадах таксама былы паліцыянт Астап Кнап.

Што гэта былі за эсэсаўцы з Лагойска ды хто такі Дырлівангер? Доктар Оскар Дырлівангер — асоба, безумоўна, адыёзная: ветэран Першай сусветнай вайны, чалец НСДАП з 1922 года, у 1934-м быў асуджаны за сэксуальныя сувязі з 13-гадовым дзяўчом, меў сур'ёзныя праблемы з алкаголем... У 1940-м Дырлівангеру даручаюць стварэнне адмысловага падраздзялення СС, складзенага з крымінальнікаў-браканьераў, вызваленых з канцлагера Заксэнхаўзэн (таго самага, куды праз год пасадзяць Бандэру).

Браканьеры для антыпартызанскіх рэйдаў сталіся ўнікальнай знаходкай — гэта былі людзі, якія ўмелі карыстацца зброяй і ведалі лясы. Ужо пазней фармаванне пачало камплектавацца асацыяльнымі элементамі, прафесійнымі злачынцамі і нават персанажамі з псіхічнымі адхіленнямі. Як кажуць, які поп, такі і прыход... Дарэчы, служылі ў Дырлівангера і былыя грамадзяне СССР з ліку вайсковых палонных: рускія збольшага, менш украінцаў. Падраздзяленне ператварылася ў «Асобную каманду СС Дырлівангера» (згодна нямецкай традыцыі называць падраздзяленні ў гонар камандзіраў) і ў 1943 годзе налічвала 700 чалавек.

Такую публіку немцы выкарыстоўвалі для самых брудных справаў, сярод якіх выявілася і Хатынь. Пасля Беларусі «дырлівангераўцы» давілі паўстанне ў Варшаве, затым у Славаччыне ў 1944-м. Сам Дырлівангер не дажыў да свайго суда: пасля ўзяцця ў палон у Францыі ў 1945 годзе яго забілі турэмныя ахоўнікі, палякі паводле пахаджання. Аднак чорны цень карніка перажыў вайну і мроіўся людзям то тут, то там. Напрыклад, Алесь Адамовіч у кнізе «Карнікі» ў 1981 годзе памылкова піша, што Дырлівангер памёр сваёй смерцю ў Лацінскай Амерыцы, а прах яго быў неўзабаве перавезены і перапахаваны ў ФРН.

## Катынь і Хатынь

Існуе канспіралагічная версія, маўляў, Хатынь абралі для мемарыялізацыі сярод іншых спаленых беларускіх вёсачак, бо назва яе сугучна з Катынню пад Смаленскам, дзе ў 1940 годзе адбываліся масавыя забойствы польскіх афіцэраў — каб адцягнуць увагу. На Нюрнбергскім працэсе савецкі бок старанна спрабаваў павесіць гэтыя злачынствы на немцаў, што выклікала канфлікт з саюзнікамі Сталіна. У СССР віну за забойствы ў Катынскім лесе прызналі толькі ў 1990 годзе, што не замінае надалей з'яўляцца ў расійскім друку артыкулам і нават кнігам са спробай перапісаць гэты момант у гісторыі.



Калі ў 1943 годзе ў лесе пад Смаленскам былі выяўленыя рэшткі польскіх жаўнераў, міністр прапаганды Райха Гебельс занатаваў у сваім дзённіку: «Мы скарыстоўваем знаходку 12 000 польскіх афіцэраў, закатаваных ГПУ, у мэтах велізарнай антыбальшавіцкай кампаніі. Мы пасылаем нейтральных польскіх журналістаў і інтэлектуалаў на месца, дзе знойдзеныя пахаванні.(...) Фюрэр таксама даў дазвол маніпуляваць жудаснай навіной у нямецкай прэсе. Я даў інструкцыі як мага больш пашыраць прапагандысцкі матэрыял. Пару тыдняў на гэтым мы пратрымаемся...»

Хатынь, як і сугучная ёй Катынь, стала ахвярай палітычных спекуляцый. Калі масавая супраца грамадзянаў СССР з немцамі не афішавалася — пра 118-ы батальён маўчалі, калі на Майдане ў Кіеве пачалі з'яўляцца партрэты Бандэры — расійскія і некаторыя беларускія журналісты жыва пачалі мусоліць тэму карнікаў-«бандэраўцаў»...

## «Час Хатыні» для СМІ

Апошнім часам складаецца ўражанне, што прапагандысты з НТВ альбо «Российской Газеты» маюць творы Гебельса за настольную кнігу. Так атрымалася і з Хатынню. Артыкул Сямёна Печанко «Кто сжег Хатынь», які перадрукавала «Савецкая Беларусь», пачынаецца так: «...Их руки не дрожат, запах крови пьянит. Послужной список пополняется новыми и новыми жертвами. Они фанатично слепо уверены, что убитых ими врагов, а это «москали, жиды, проклятые русские», должно быть больше, еще больше. И тогда для национализма наступает время Хатыни».

Гледзячы па ўсім, «час Хатыні», а мажліва «час Катыні» надышоў акурат для расійскіх СМІ, якія цнатліва маўчаць пра злачынствы РОА альбо расійскага карніка Гіль-Радзіёнава падчас вайны. Радзіёнаў (1-й рускай нацыянальнай брыгады СС «Дрыжуна»), напрыклад, расстраляў жыхароў беларускіх вёсак, якія не змаглі да яго звярнуцца на «литературном русском языке»... Мажліва, гэта не так актуальна для кагосьці, а вось украінская тэма — муляе вока.

Сімвалічна, што над Хатынню стаіць барадаты стары з дзіцём, у падранай абгарэлай адзежы, які некалі прыйшоўся не даспадобы міністру культуры СССР Фурцавай — тая хацела бачыць помнік савецкаму салдату з дзіцём на руках. Хатынь — месца нацыянальнай жалобы і памяці, гэта не бутафорская «лінія Сталіна» і не Мамаеў курган. Тут лішнія пампезныя парады, «ряжэныя» казакі ды «ветэраны» 1940-х гадоў нараджэння. Лішнія і крыклівыя прапагандысты. Жыхары беларускіх вёсак, спаленыя і расстраляныя цягам вайны, заслужылі вечны спакой, а не ролю дэкарацыяў у брудных і хлуслівых палітычных пастановах.

# Канцэрт для сяброў і аднадумцаў

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У музеі Янкі Купалы адбыўся традыцыйны летні канцэрт вядомага беларускага барда і паэта Алеся Камоцкага. Гэта быў канцэт-падарунак самым адданым слухачам, якія памятаюць тое, што 9 чэрвеня Алесь святкуе свой дзень нараджэння. Таму многія з прыхільнікаў творчасці вядомага барда, паэта і кампазітара прыйшлі ў залу музея з кветкамі, невялікімі падарункамі і шчырымі словамі падзякі Алесю за яго творчасць.**





Цікава, што гэтым разам акампаніятарам Алесю Камоцкаму выступіў гітарыст Юрый Хілавец, які ў гэты дзень падмяніў занятага гастрольнымі паездкамі Алега Змушку. Трэба адзначыць, што гэты канцэрт для Юрыя аказаўся даволі ўдалым, і яго акампанемент, гітарныя пройгрышы і сола падкрэслівалі далікатную меладычную лінію песень Камоцкага. Яго гітары былі падуладныя і фальклорная глыбіня мелодый, і рытмы фламенка, і джазавыя імправізацыі…

Перш чым распачаць канцэртную праграму, Алесь распавёў пра толькі што завершаны ім выдавецкі праект — выданне зборніка вершаў Рыгора Барадуліна «Сон сасны», які быў задуманы яшчэ пры жыцці выдатнага паэта. І вось цяпер, да радасці Алеся, гэтая праца набліжаецца да завяршэння. Яна была даволі складаная і адказная. Бо гэты новы зборнік твораў Рыгора Барадуліна ўключае не толькі вершы, але і падборку мастацкіх здымкаў фотамайстра С.Грудзіліна, а таксама міні-CD, на якім тыя ж вершы гучаць у запісе Рыгора Барадуліна. Алесь таксама адзначыў, што прэзентацыя зборніка вершаў Р. Барадуліна «Сон сасны» адбудзецца 13 чэрвеня ў выдавецтве «Галіяфы», што па вуліцы Валгаградская, 8. Ён запрасіў усіх тых, хто шануе творчасць Рыгора Барадуліна, наведаць гэтую паэтычную прэзентацыю.

Пасля шчырага запрашэння наведаць будучую імпрэзу, тэма Р. Барадуліна не была закрытая: Алесь прапанаваў слухачам сваю кампазіцыю, прысвечаную памяці Рыгора Барадуліна. Гэта не была пахавальная песня, а філасофскі погляд на жыццёвы шлях чалавека, які ўвесь свой талент аддаў служэнню роднай Беларусі. Ды і іншыя мелодыі Алеся Камоцкага, створаныя на вершы Дзядзькі Рыгора, адпавядалі высокім крытэрам сугучча Слова і Мелодыі. Многія з гэтых кампазіцый былі ўзяты Алесем Камоцкім з новага паэтычнага зборніка «Сон сасны».

Далей канцэрт-падарунак да дня народзінаў Алеся Камоцкага працягваўся па незапланаваным сцэнару: слухачы задавалі пытанні, звязаныя з творчасцю барда, замаўлялі зусім забытыя, але такія любімыя песні Камоцкага. Алесь жартаваў, шчыра здзіўляўся, што яго песні людзі памятаюць, што цікавыя імі. Нягледзячы на шчыльна запоўненую залу музея Янкі Купалы, вечаровую гарадскую спёку, слухачы шчыра апладзіравалі музыкантам за іх цудоўныя песні, за бесперапынны дыялог з залай і адкрытасць у сваіх меркаваннях.

Асаблівая старонка канцэрта і новы накірунак творчасці, які ўжо знайшоў сваё адлюстраванне на сумесным з гуртом «DZIVASIL» «Ірландскім альбоме», — творы А. Камоцкага паводле ірландскіх песень змагання. Як заўважыў Алесь у сваім уступным слове да гэтай часткі канцэрта, Беларусь і Ірландыя маюць шмат агульнага як у этнаграфічным сэнсе, так і ў гістарычным развіцці. Ірландскі фальклор, у тым ліку і песні змагання за незалежнасць і волю, адрозніваюцца меладызмам, а ідэалы ірландскага супраціву ў гэтых песнях перадаюцца праз лірычныя перажыванні простага чалавека.

Дарэчы, з гэтымі кампазіцыямі Камоцкі і гурт «DZIVASIL» у гэтым годзе сталі хэдлайнерамі Дня святога Патрыка — нацыянальнага свята Ірландыі, якое ўжо некалькі гадоў шырока адзначаецца і ў нашай краіне. Творы па матывах ірландскага фальклору — «Усмешка спагады», «Якою дарогай», «Там, дзе калісьці» выклікалі шмат цёплых апладысментаў і адчуванне сапраўднай роднаснасці беларускай і ірландскай культур.

Развітацца са слухачамі Алесь Камоцкі прышлося на «біс», і гэтым творам стаў знакаміты хіт савецкіх часоў «Летят перелётные птицы» з музыкай М. Блантэра на верш М. Ісакоўскага. У Камоцкага гэты твор запісаны на дыску «З бацькоўскай кружэлкі» і мае назву «Птушкі». Тыя «Птушкі», але ўжо з выразным беларускім «акцэнтам», і сталі завяршаючай кодай цудоўнага канцэрта, прысвечанага дню нараджэння Алеся Камоцкага.

Нельга не адзначыць той станоўчы факт, што хоць канцэрт і быў бясплатны, арганізатары змаглі рэалізаваць дастатковую колькасць кніг Рыгора Барадуліна, дыскаў з песнямі Алеся Камоцкага. І гэта добры знак, бо нашыя людзі ўжо гатовыя набываць беларускамоўную літаратурную і музычную прадукцыю, без шкадавання ахвяраваць свае грошы ў рынкавы віхур і, такім чынам, даваць магчымасць развівацца беларускай культуры і яе творцам у сучасных умовах.




ПАТРЭБНА ДАПАМОГА!

## Шчанё закідваюць камянямі і травяць сабакамі!

**Да прыпынку грамадскага транспарту ў Бараўлянах прыбілася шчанё — прыгожая шасцімесячная дзяўчынка з разумнымі карымі вочкамі і вясёлай усмешкай. Яна вельмі радуецца людзям і так да іх ласціцца… А людзі — кідаюць у яе камяні.**

Знайшлася жанчына, якая пашкадавала малечу і часова прыняла да сябе на двор. Але ў жанчыны ёсць свае некалькі сабак, і доўга трымаць дзяўчынку яна не можа. Да таго ж участак, дзе стаіць дом жанчыны, не мае агароджы, і сабака ўвесь час заходзіць у госці да суседзяў. А суседзі пры першай жа магчымасці кідаюць у жывёлінку камянямі, заганяюць у кут і б'юць палкамі, а яшчэ натраўліваюць сваіх сабакаў. Дзяўчынку ўжо не адзін раз пакусалі…



Шчанё вельмі ласкавае, актыўнае і няшчаснае. Ёй так патрэбны хаця б часовы дом, бо кожны дзень існуе верагоднасць, што гэтую прыгажосць ці заб'юць людзі, ці загрызуць сабакі.

Дайце гэтаму цуду шанец! Няхай яна жыве! Дах над галавой, міска з ежай і вадой ды крыху ласкі — гэта ўсё, што трэба гэтым прыгожым вочкам.

Пазваніце зараз 8 029 13 99 123. Магчыма, калісьці гэта вам залічыцца…

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 776

Падпісана да друку 13.06.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.